● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

12 верасня 1998 г. субота, № 180 (23531)

# ЗВЯЗДА



## ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 15

# АБ НЕАДКЛАДНЫХ МЕРАХ ПА АБАРОНЕ СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ

У мэтах забеспячэння эканамічнай стабільнасці дзяржавы і рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян на дастойны ўзровень жыцця, уключаючы стварэнне ўмоў для набыцця тавараў, цэны на якія рэгулююцца дзяржавай (далей — тавары), і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пастанаўляю:

1. Устанавіць, што:

1.1. аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам забяспечваюць у вызначаным заканадаўствам парадку рэгуляванне адносінаў, звязаных з рэалізацыяй тавараў на тэрыторыі адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, у тым ліку пры неабходнасці:

устанаўліваюць гранічныя нормы рэалізацыі тавараў;

абмяжоўваюць (прыпыняюць) дзейнасць асобных суб'ектаў гаспадарання, якія парушаюць патрабаванні заканадаўства пры рэалізацыі тавараў;

прымаюць меры па неадкладнай рэалізацыі скорапсавальных тавараў, канфіскаваных (забраных) у адпаведнасці з гэтым Дэкрэтам;

1.2. рэалізацыя тавараў фізічным і юрыдычным асобам звыш нормаў, устаноўленых у адпаведнасці з падпунктам 1.1 гэтага пункта, а таксама продаж тавараў, у тым ліку за наяўны разлік, з парушэннем устаноўленага парадку са складоў, баз, падсобных памяшканняў прадпрыемстваў, аб'яднанняў, устаноў, арганізацый або пры дастаўцы іх да месца захоўвання або рэалізацыі —

цягнуць за сабой накладанне штрафу ў памеры ад 50 да 100 мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за правапарушэнні, прадугледжаныя часткай першай гэтага падпункта, калі за іх не ўстаноўлена крымінальная адказнасць,— цягнуць за сабой накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад 100 да 200 мінімальных заработных плат, на службовых асоб — ад 150 да 300 мінімальных заработных плат;

1.3. у выпадку парушэння ўстаноўленага парадку рэалізацыі тавараў суб'ектамі гаспадарання па рашэнню ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў на падставе прадстаўленняў органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю, унутраных спраў, дзяржаўных падатковых і мытных органаў:

адпаведныя юрыдычныя асобы падлягаюць ліквідацыі;

прадпрымальніцкая дзейнасць, якая ажыццяўляецца без утварэння юрыдычнай асобы, спыняецца;

адпаведныя спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) анулююцца;

вінаватыя грамадзяне і службовыя асобы прыцягваюцца да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці;

1.4. вываз тавараў фізічнымі і юрыдычнымі асобамі з Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца ў адпаведнасці з гэтым Дэкрэтам і іншымі актамі заканадаўства, якія не супярэчаць гэтаму Дэкрэту.

Вываз тавараў звыш устаноўленых нормаў дапускаецца пры ўмове выплаты названымі асобамі спецыяльнага збору ў памеры двухкратнага кошту тавараў, што вывозяцца звыш гэтых нормаў.

Забарона, абмежаванні і нормы ўвозу і вывазу тавараў, якія дзейнічаюць пры іх перамяшчэнні праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь, распаўсюджваюцца на ўвоз у Рэспубліку Беларусь і вываз з яе ўсіх тавараў, у тым ліку тавараў, што ўвозяцца з краін мытнага саюза і вывозяцца ў гэтыя краіны.

1.5 вываз з Рэспублікі Беларусь фізічнымі і юрыдычнымі асобамі тавараў з парушэннем устаноўленага парадку —

цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры ад 50 да 500 мінімальных заработных плат з канфіскацыяй тавараў, адпаведных транспартных сродкаў

(Заканчэнне на 2-стар.).




Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

# У МАГАЗІНАХ ПАМЕЖНЫХ РАЁНАЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ НЯМА ПУСТЫХ ПАЛІЦ

**У Касцюковіцкім, Клімавіцкім, Мсціслаўскім і Хоцімскім райвыканкамах карэспандэнту «Звязды» заявілі, што ў сельскіх магазінах на памежных тэрыторыях, а таксама ў райцэнтрах ажыятажнага попыту на прадукты харчавання не назіраецца, хаця сёння на пашыраных нарадах ва ўсіх гэтых раёнах з удзелам зацікаўленых структур абмяркоўваліся пытанні няхваткі некаторых прадуктаў. Да ліку дэфіцытных належаць грэчка, рыс, мука вышэйшага гатунку і цукар.**

Намеснік старшыні Касцюковіцкага райвыканкама Васіль Мар'еў паведаміў, што ў насельніцтва няма нараканняў на насычэнне таварамі магазінаў. Спажыўсаюз зараз займаецца дастаўкай у раён мукі вышэйшага гатунку. Але ў Касцюковічах непамерна ўзрасла цана на імпартны алей, літр якога каштуе больш за 200 тысяч рублёў. Перад мясцовымі ўладамі, зазначыў Васіль Мар'еў, пастаўлена задача абараніць свой спажывецкі рынак. І ўвядзенне нормаў водпуску тавараў з'яўляецца адной з самых эфектыўных мераў. Абстаноўку на мяжы ў райвыканкаме лічаць таксама нармальнай, а ў цягнік «Магілёў—Унеча», які з'яўляецца самым папулярным транспартным сродкам у жадаючых перасекчы беларуска-расійскую мяжу, «чаўнакоў» на станцыі «Касцюковічы» не пускаюць.

Межы на тэрыторыі Мсціслаўскага раёна ўзмоцнены перасовачнымі мытнымі пастамі, перад якімі пастаўлена мэта спыніць незаконны вываз прадуктаў харчавання. Але, па інфармацыі намесніка старшыні Мсціслаўскага райвыканкама Сяргея Саханкова, наплыву «чаўнакоў» зараз і няма па прычыне, у першую чаргу, нестабільнасці расійскага рубля. Што датычыцца наяўнасці прадуктаў у магазінах раёна, то абстаноўку ў Мсціслаўскім раёне характарызуюць як «цярпімую, без асаблівых праблем».

Не ва ўсіх сельскіх магазінах Клімавіцкага раёна сёння ёсць цукар, маянэз, мука, рыс, грэчка. І, зноў-такі, вельмі дарагі алей. Па словах намесніка старшыні райвыканкама Івана Баршчова, людзі не вельмі перажываюць за ўведзеныя нормы водпуску, якія былі разлічаны ад таварных запасаў. Кажуць, пацерпім, вось толькі запісваюцца ў чэргі на атрыманне халадзільнікаў і тэлевізараў, актыўна набываюць мэблю. «Што датычыцца мяжы, дык яна наглуха зачынена», — сказаў у інтэрв'ю Іван Баршчоў. Да яго днямі звярнуўся жыхар Клімавіч, які паскардзіўся на немагчымасць завезці трохy прадуктаў харчавання на вяселле сына, які жэніцца на расійскім баку. Але сітуацыю чалавека, які, дарэчы, прад'явіў афіцыйнае запрашэнне ў расійскі Дом грамадзянскіх абрадаў, зразумелі і ўлады, і мытнікі: на вяселле сына ён паедзе не з пустымі рукамі.

Кіраўнік самага далёкага ў Магілёўскай вобласці Хоцімскага раёна Іван Кажамяка запэўнівае, што на яго тэрыторыі ніколі і не было ажыятажу. Маўляў, не першы год жывём на памежжы і своечасова ўводзім нормы водпуску тавараў у адны рукі. Гандаль Хоцімскага раёна — адзін з лепшых у вобласці, да таго ж і муку першага гатунку цяпер выробляе мясцовы калгас «Авангард». Мяжа Хоцімскага раёна ўзмоцнена трыма міліцэйскімі пастамі, але зноў-такі ў «чаўнакоў» зараз няма жадання яе перасекчы — расійскія рублі цяпер не лічацца стабільнай валютай. А вось з «таго боку» расіяне прыходзяць да беларускіх сваякоў і, зразумела, наведваюць магазіны. Па словах Івана Кажамякі, ніхто ім не адмаўляе ў пакупках за беларускія рублі згодна з існуючымі нормамі водпуску. «Кожны трэці ў Хоцімскім раёне — рускі, — зазначыў старшыня райвыканкама, — а таму мы не можам адмаўляць ім у гэтым, не можам падзяліць беларуска-рускія сем'і на два кавалкі...»

**Ілона ІВАНОВА.**

# АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАВІНШАВАЎ ЯЎГЕНА ПРЫМАКОВА З НАЗНАЧЭННЕМ НА ПАСАДУ СТАРШЫНІ ЎРАДА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ

У пятніцу вечарам, адразу ж пасля зацвярджэння Дзяржаўнай Думай Расійскай Федэрацыі на пасаду Старшыні ўрада Яўгена Прымакова, прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў яму тэлеграму. У ёй кіраўнік беларускай дзяржавы сардэчна і шчыра павіншаваў Яўгена Прымакова з назначэннем на гэту высокую пасаду.

«Няхай Ваш багаты вопыт вядомага палітыка, таленавітага вучонага, умелага дыпламата, бескампраміснага абаронцы дзяржаўнай бяспекі Радзімы доўгія і доўгія гады служыць інтарэсам Вялікай Расіі і нашай агульнай справе, — гаворыцца ў тэлеграме. — У асобе беларускага кіраўніцтва Вы знойдзеце самых паслядоўных саюзнікаў і аднадумцаў».

Аляксандр Лукашэнка пажадаў Яўгену Прымакову і яго блізкім дабра і шчасця.

**БЕЛТА.**

## Ураджай бульбы павінен быць нядрэнны

**На сённяшні дзень у рэспубліцы бульба ўбрана на плошчы больш за 6 тысяч гектараў.**

Шпаркая нарыхтоўка «другога хлеба» ідзе ў Мінскай вобласці, дзе ўбрана больш як 2 тысячы гектараў, і на Брэстчыне — каля 1 тысячы гектараў. Сярэдняя ўраджайнасць бульбы па рэспубліцы складае 157 цэнтнераў з гектара. Паводле папярэдніх даных, па ўраджайнасці бульбы лідзіруюць Гродненская (182 ц/га), Брэсцкая (170 ц/га) і Магілёўская (195 ц/га) вобласці.

Усяго ў рэспубліцы на ўбраных плошчах накапана каля 94 тысяч тон бульбы, з якой 24 тысячы тон прададзена дзяржаве. Больш як 2,7 тысячы тон бульбы Мінсельгасхарч прадаў за межы рэспублікі. На патрэбы дзяржавы міністэрства плануе нарыхтаваць на зіму бульбы (без уліку спажыўкааперацыі) не менш як 55,7 тыс. тон. Па меркаванню спецыялістаў , калі ўборцы «другога хлеба» не перашкодзіць дрэннае надвор'е, то ўраджай бульбы будзе намнога вышэй, чым летась.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 11 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 62900 | 63000 | 36780 | 36840 | 2200 | 3580 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 60500 | 62000 | 35300 | 36200 | 1000 | 2700 | 245-5721 |
| Белпрамстройбанк | 63000 | 64000 | 35000 | 37400 | 3300 | 3600 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 51200 | | 30400.19 | | 3500 | | Курс на 12.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 11,4281 | | 6,8008 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## Дзяржаўныя засекі папаўняюцца збожжам

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Камітэце па хлебапрадуктах, паводле даных на 11 верасня гаспадаркі здалі дзяржаве 1 мільён 197,7 тысячы тон збожжа, што складае 71 працэнт планавага паказчыка.**

Больш за ўсё збажыны паступіла ад гаспадарак Гродзенскай вобласці — 242,4 тысячы тон (88 працэнтаў). Менш за ўсіх здала збожжа Магілёўшчына — 164,1 тысячы тон (63 працэнты).

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ПАРОЛЬ «АТАКА!»



Канец лета, пачатак восені — напружаны час для беларускіх вайскоўцаў. Нядаўна яны паспяхова правялі вучэнні на расійскім ракетным палігоне Ашалук, а сёння ўжо разгарнулі свае баявыя парадкі на беларускім Абуз-Лясноўскім палігоне.

НА ЗДЫМКУ: у вялікіх вучэннях — вялікая карта.

(Заканчэнне на 3-стар.).



## *Усміхнёмся!*

***У дзіцячым садзіку ўсе дзеці сталі лаяцца.***

*Дазнаўшыся пра гэта, начальнік ЖЭКа, абодва электрыкі якога наладжвалі ў тым дзіцячым садзе тэлефон, выклікаў гэтых «спецаў» і вырашыў высветліць, што здарылася. Адзін тлумачыць:*

*— Справа была так: Сідараў паяў правады, а я знізу трымаў лесвіцу. Праз нейкі час я так спакойна кажу Сідараву: «Няўжо ты не бачыш, што кроплі расплаўленага жалеза трапляюць за каўнер твайму таварышу?!»*




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

# АБ НЕАДКЛАДНЫХ МЕРАХ ПА АБАРОНЕ СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

і іншай маёмасці, якая выкарыстоўваецца для вывазу тавараў;

1.6. права разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных падпунктам 1.2 гэтага пункту, прадастаўляецца ўпаўнаважаным на гэта службовым асобам органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю, унутраных спраў, фінансавых расследаванняў, дзяржаўных падатковых і мытных органаў, а аб правапарушэннях, прадугледжаных падпунктам 1.5 гэтага пункта, — раённаму (гарадскому) суду (суддзі).

Пратаколы аб учыненні адміністрацыйных правапарушэнняў, прадугледжаных падпунктам 1.5 гэтага пункта, складаюцца ўпаўнаважанымі на гэта службовымі асобамі органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю, унутраных спраў, фінансавых расследаванняў, дзяржаўных падатковых і мытных органаў. Пры гэтым тавары, адпаведныя транспартныя сродкі і іншая маёмасць, якая выкарыстоўваецца для вывазу тавараў, канфіскуюцца (падлягаюць арышту) названымі службовымі асобамі да разгляду справы.

Рэалізацыя ва ўстаноўленым парадку скорапсавальных тавараў праводзіцца неадкладна пасля іх канфіскацыі (накладання на іх арышту). У выпадку прыняцця судом рашэння аб вяртанні рэалізаванага тавару законнаму ўладальніку апошняму вяртаецца выручка ад рэалізацыі названага тавару;

1.7. 50 працэнтаў сум спецыяльнага збору, штрафаў, спагнаных у адпаведнасці з падпунктамі 1.4 і 1.5 гэтага пункта, і прыбытку ад рэалізацыі тавараў, якія вывозяцца, адпаведных транспартных сродкаў і іншай маёмасці, канфіскаванай у адпаведнасці з падпунктам 1.5 гэтага пункта, залічваюцца ў даход мясцовых бюджэтаў, а астатнія сумы — у даход рэспубліканскага бюджэту;

1.8. службовыя асобы прадпрыемстваў, аб'яднанняў, устаноў і арганізацый, якія дапусцілі пры выкананні службовых абавязкаў парушэнне патрабаванняў гэтага Дэкрэта, падлягаюць вызваленню ад займаемай пасады (звальненню).

2. Прадаставіць права:

2.1. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь зацвярджаць пералік асобных неабходных насельніцтву тавараў, увоз і вываз якіх могуць ажыццяўляцца толькі ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі (аб'яднаннямі, установамі, арганізацыямі), калгасамі і арганізацыямі спажывецкай кааперацыі. Пры гэтым указаныя юрыдычныя асобы абавязаны забяспечыць паступленне ў Рэспубліку Беларусь і рацыянальнае выкарыстанне замежнай валюты і іншых матэрыяльных каштоўнасцяў;

2.2. упаўнаважаным службовым асобам органаў унутраных спраў прымяняць да юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, эканамічныя санкцыі, прадугледжаныя падпунктам 1.22 пункта 1 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 жніўня 1997 г. № 14 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню эканамічных адносінаў» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 22-23, арт.786).

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнаму Суду, Дзяржаўнаму сакратарыяту Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, Камітэту дзяржаўнага кантролю, Пракуратуры і Нацыянальнаму банку ў месячны тэрмін прадставіць ва ўстаноўленым парадку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь праекты нарматыўных актаў, якія прадугледжваюць дадатковыя меры па абароне спажывецкага рынку.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнаму сакратарыяту Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, Камітэту дзяржаўнага кантролю, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту, Дзяржаўнаму камітэту пагранічных войскаў прыняць меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Дэкрэта.

5. Камітэту дзяржаўнага кантролю, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту і Міністэрству ўнутраных спраў забяспечыць кантроль за ўвозам на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і вывазам з Рэспублікі Беларусь тавараў у адпаведнасці з патрабаваннямі гэтага Дэкрэта.

6. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з дня яго падпісання, з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*4 верасня 1998 г.*
*г.Мінск.*

# АБ ДЭКРЭЦЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ НЕАДКЛАДНЫХ МЕРАХ ПА АБАРОНЕ СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ»

4 верасня 1998 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў Дэкрэт № 15 «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку», які ў той жа дзень уступіў у сілу. Дзяржаўныя органы пачалі яго рэалізацыю.

Прэзідэнт рашуча стаў на абарону беларускіх спажыўцоў. Выкананне Дэкрэта дае магчымасць пазбегнуць дэфіцыту спажывецкіх тавараў, ажыятажу і чэргаў у магазінах.

Гэта было зроблена своечасова, паколькі каля граніц Рэспублікі Беларусь бушуе эканамічны і фінансавы крызіс. Вопыт нашых суседзяў пераконвае, што гэты пажар лягчэй прадухіліць, чым патушыць.

Меры, прынятыя прэзідэнтам, простыя і зразумелыя кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь.

У першую чаргу зроблена ўсё, каб спыніць скупліванне тавараў дробнымі і буйнымі спекулянтамі, а таксама грамадзянамі, якія паддаліся паніцы. Таму абласным і Мінскаму гарадскому выканаўчым камітэтам дадзена права ўводзіць нормы рэалізацыі тавараў, абмяжоўваць (прыпыняць) дзейнасць суб'ектаў гаспадарання, якія парушаюць патрабаванні заканадаўства ў гэтай сферы. Урад атрымаў права па ўзгадненню з прэзідэнтам вызначаць пералік тавараў, увоз і вываз якіх будуць ажыццяўляць толькі ўпаўнаважаныя на гэта арганізацыі.

Усе гэтыя меры будуць прымацца толькі ў выпадку неабходнасці там, дзе ўзмоцнена скупліваюцца тавары і ёсць пагроза дэфіцыту.

Рэспубліка Беларусь у дастатковай ступені забяспечана таварамі народнага спажывання. Таму чым менш будзе працягвацца ажыятаж сярод пакупнікоў, тым карацейшы будзе перыяд дзеяння такіх абмежаванняў.

Прадугледжаны і меры па прадухіленню незаконнага вывазу тавараў з Рэспублікі Беларусь. Гэта не значыць, што Рэспубліка Беларусь спыніць гандаль з замежнымі краінамі, у тым ліку з брацкай Расіяй. Наадварот, гэты гандаль упарадкаваны і прыведзены ў поўную адпаведнасць з заканадаўствам. Ім будуць займацца тыя, хто мае на гэта права, а не тыя, хто імкнецца абагаціцца на эканамічных цяжкасцях нашых суседзяў.

Прадухілены вываз тых тавараў, якія прызначаны для грамадзян Рэспублікі Беларусь. Гэтыя тавары таннейшыя ў нас, паколькі частка іх кошту аплачана з бюджэту Рэспублікі Беларусь. Замежныя пакупнікі не ўдзельнічаюць у фарміраванні беларускага бюджэту, таму і не могуць прэтэндаваць на куплю тавараў па больш нізкіх цэнах, устаноўленых для нашых грамадзян у нашых магазінах. Тым больш нельга ператвараць бюджэтныя датацыі ў крыніцу асабістага абагачэння, як гэта робяць тыя, хто скупляе прадукты ў рэспубліцы і прадае іх за мяжой.

Той, хто ўсё ж хоча вывезці тавары за мяжу звыш устаноўленых нормаў, зможа гэта зрабіць, заплаціўшы спецыяльны збор у памеры двухразовага кошту вывозімых тавараў.

У адносінах да тых, хто парушае ўстаноўленыя заканадаўствам правілы гандлю і вывазу тавараў за мяжу, прадугледжаны штрафы да 500 мінімальных заработных плат. Ім таксама трэба мець на ўвазе, што не толькі незаконна вывозімы тавар, але і транспарт, на якім тавар вывозіцца, і іншая маёмасць, якая выкарыстоўваецца для незаконных дзеянняў, будуць арыштаваны і канфіскаваны па рашэнню суда. Службовыя асобы, якія дапусцілі пры выкананні службовых абавязкаў парушэнне патрабаванняў Дэкрэта, падлягаюць звальненню, супраць іх можа быць заведзена крымінальная справа.

У мэтах своечасовага і поўнага выканання патрабаванняў Дэкрэта ў ім прадугледжаны неабходныя даручэнні дзяржаўным органам Рэспублікі Беларусь

**Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

# ЖЫЦЦЯДЗЕЙНАСЦЬ ДЗЯРЖАВЫ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД УЗАЕМАДЗЕЯННЯ ЎСІХ ГАЛІН УЛАДЫ

Пытанням узаемадзеяння дзяржаўных органаў улады была прысвечана нарада, якую 11 верасня правёў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. У яе рабоце прынялі ўдзел члены ўрада, парламентарыі, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і абласных выканаўчых камітэтаў.

Адкрываючы нараду, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ад узаемадзеяння ўсіх галін улады залежыць умацаванне суверэнітэту нашай рэспублікі. За апошнія гады, падкрэсліў ён, у краіне ўзнікла некалькі новых інстытутаў улады. Аднак колькасць чыноўнікаў у дзяржаўных органах улады, паводле слоў прэзідэнта, не павялічылася. А ў некаторых структурах іх колькасць, наадварот, зменшылася на 50 працэнтаў. Прыметай дэмакратызацыі нашага грамадства, лічыць кіраўнік дзяржавы, з'яўляецца дзеючы цяпер Канстытуцыйны суд. У сувязі з узнікненнем новых дзяржструктур, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, з'явіліся праблемы ва ўзаемадзеянні ўсіх галін улады. Неабходны каардынатар, якім, згодна з Канстытуцыяй, з'яўляецца прэзідэнт. Каб забяспечыць нармальную жыццядзейнасць дзяржавы, прыходзіцца праяўляць некаторую жорсткасць, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

# МІНІСТРЫ АТРЫМАЛІ СТАНОЎЧУЮ АЦЭНКУ

10 верасня прадоўжыла работу атэстацыйная камісія па атэстацыі кіруючых работнікаў органаў дзяржаўнага кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Пасяджэнне праходзіла пад старшынствам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М.У.Мясніковіча. У рабоце камісіі таксама прынялі ўдзел Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу П.У.Шыпук, намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь У.П.Замяталін, намеснікі кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.М.Абрамовіч і І.І.Пашкевіч, іншыя члены камісіі.

Як паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, адразу тры кіраўнікі сацыяльна-культурнага комплексу рэспублікі — міністр аховы здароўя І.Б.Зелянкевіч, міністр адукацыі В.І.Стражаў, старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях В.А.Гайсёнак — рабілі справаздачу аб рабоце дзяржаўных органаў, якія яны ўзначальваюць. Яны зрабілі справаздачу аб стане спраў у гэтых галінах, стылі і метадах кіраўніцкай дзейнасці, падрыхтоўцы, выхаванні і расстаноўцы кадраў у цэнтральных апаратах рэспубліканскіх органаў кіравання і падведамных арганізацыях.

Камісія станоўча ацаніла работу І.Б.Зелянкевіча, В.І.Стражава, В.А.Гайсёнка і адначасова, зыходзячы з узнікшай эканамічнай сітуацыі, выказала канкрэтныя пажаданні, зрабіла даручэнні кожнаму з кіраўнікоў, якія атэстоўваліся. Атэстацыя паказала ўзрослую адказнасць кіруючых кадраў, рэальнае бачанне і разуменне задач, якія стаяць перад імі.

**БЕЛТА.**

# «ПАРАДАК І АРГАНІЗАВАНАСЦЬ ЗАБЯСПЕЧАЦЬ НАРМАЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ»

Ніякіх аб'ектыўных прычын для таго, каб вынікі расійскага фінансавага крызісу «захліснулі» Беларусь, няма. Усе ўладныя структуры нашай дзяржавы функцыянуюць нармальна, і сітуацыя на спажывецкім рынку знаходзіцца пад кантролем. Гарантуе беларусам нармальнае жыццё добрая работа прамысловых прадпрыемстваў, а таксама тое, што ўраджай, нягледзячы на ўсе капрызы надвор'я, вырасцілі і ўбіраем. Галоўнае сёння — забяспечыць усім працэсам належны парадак і арганізацыю. Гэтыя словы сталі лейтматывам выступлення прэм'ер-міністра Сяргея Лінга на аператыўнай нарадзе ў Мінскім аблвыканкаме, праведзенай 10 верасня.

У сваім выступленні прэм'ер-міністр падкрэсліў, што кіраўніцтва рэспублікі было гатова да расійскага крызісу, спецыялісты прагназіравалі такое развіццё падзей. У сувязі з гэтым былі прыняты канкрэтныя меры: удвая ў параўнанні з мінулым годам павялічаны запасы прадуктаў харчавання, пастаянна павышаліся даходы насельніцтва, прымаліся і іншыя эканамічныя меры. Усё гэта дапамагло аслабіць уплыў абвалу расійскага рубля на беларускую эканоміку. Але негатыўныя вынікі, вядома ж, ёсць, і ў першую чаргу яны адбіліся на спажывецкім рынку.

# СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК КРАІНЫ ЗНАХОДЗІЦЦА ПАД КАНТРОЛЕМ УРАДА

Пытанні, што датычаць абароны спажывецкага рынку рэспублікі, былі разгледжаны ўвечары 10 верасня на пасяджэнні часовай камісіі Савета Міністраў Беларусі. У ім прынялі ўдзел кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, іншыя адказныя работнікі.

Аб сітуацыі, што склалася на сённяшні дзень у гандлі, і мерах па выкананню даручэнняў прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі далажыў міністр гандлю Пётр Казлоў. Ён паведаміў, што ў галіне робіцца ўсё магчымае, каб тавары не знікалі з прылаўкаў магазінаў. На складах арэнднага прадпрыемства «Белбакалея» ёсць 6 тысяч тон цукру, павялічваецца колькасць мукі, круп, плодаагародніннных кансерваў, іншай прадукцыі.

Каб абараніць спажывецкі рынак краіны, прыняты шэраг канкрэтных мераў. Дакладна агавораны нормы водпуску прадукцыі ў адны рукі. «Але не па картачнай сістэме, як некаторыя гэта ўяўляюць, — адзначыў міністр. — Нормы неабходны, каб прадухіліць вываз прадукцыі за межы рэспублікі».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

# ТРЭБА ЛЕПШ ІНФАРМАВАЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА АБ ДЗЕЯННЯХ УЛАДАЎ ПА СТАБІЛІЗАЦЫІ РЫНКУ

У пятніцу ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы адбылася рабочая нарада, на якую былі запрошаны кіраўнікі рэспубліканскіх дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і прадстаўнікі прэс-службаў урада, Нацыянальнага банка, міністэрстваў, ведамстваў, якія ў першую чаргу адказваюць за сітуацыю на фінансавым і таварным рынку. На нарадзе, якую вёў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І.І.Пашкевіч, разгледжаны пытанні паляпшэння інфармавання насельніцтва аб сітуацыі на рынку, аб мерах, якія прымаюць ўлады па яго насычэнню і абароне. Падкрэсліўшы, што становішча ў рэспубліцы стабільнае і кіруемае, што службовымі асобамі ў цэнтры і на месцах ажыццяўляецца комплекс мераў па паляпшэнню сітуацыі, І.І.Пашкевіч запатрабаваў ад удзельнікаў нарады больш аператыўных і зладжаных дзеянняў, накіраваных на поўнае і своечасовае інфармаванне насельніцтва.

**БЕЛТА.**

# АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ КАЛЕГІІ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА КРАІНЫ

Пад старшынствам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта краіны Міхаіла Мясніковіча 11 верасня адбылося пасяджэнне калегіі Адміністрацыі Прэзідэнта. На ёй былі разгледжаны пытанні: «Аб стане і мерах па ўдасканаленню работы рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання па выкананню дамоўленасцей, дасягнутых на вышэйшым узроўні», а таксама «Аб праекце Указа Прэзідэнта краіны «Аб мерах па ўдасканаленню дзяржаўнай сістэмы прававой інфармацыі». **БЕЛТА.**

# УДЗЕЛЬНІКАМ І ГАСЦЯМ КУБКА СВЕТУ ПА ДЗЮДО

Паважаныя спартсмены, арганізатары і госці Кубка свету 1998 года па дзюдо!

Сардэчна вітаю вас у горадзе-герої Мінску!

Сталіца нашай рэспублікі ўжо чацвёрты раз у гэтым годзе прымае ўдзельнікаў спаборніцтваў такога высокага рангу. Чэмпіянаты Еўропы па біятлону, грэка-рымскай барацьбе і боксу, якія праводзіліся ў нас, паказалі, што Мінск становіцца адным з цэнтраў еўрапейскага спорту. Мы рады бачыць у сябе ў гасцях родапачальнікаў захапляючага віду спорту дзюдо — японцаў. Прымаючы ўдзел у зімовых Алімпійскіх гульнях у Нагана, беларуская каманда і я асабіста пераканаліся ў тым, які таленавіты, добразычлівы і працалюбівы народ Краіны ўзыходзячага сонца.

Наша дзяржава надае вялікае значэнне развіццю спорту і фізічнай культуры, разумеючы, што будучыя поспехі краіны ў многім залежаць ад здароўя нацыі.

У Беларусі падрыхтавана больш як 50 алімпійскіх чэмпіёнаў па розных відах спорту. Ёсць пэўныя поспехі і ў дзюдаістаў, якія станавіліся прызёрамі чэмпіянатаў свету і Еўропы.

Жадаю ўсім удзельнікам спаборніцтваў яркіх перамог. Няхай Мінск запомніцца вам як горад, дзе жывуць і працуюць цудоўныя і сардэчныя людзі.

Добрага вам здароўя, шчасця і ўдачных стартаў!

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь А. Г. ЛУКАШЭНКА.**

# КРАІНА ВАЧЫМА ТУРЫСТА, ЯКІ ВЯРНУЎСЯ ДАМОЎ

І хаця такі доўгачаканы адпачынак доўжыўся ўсяго два тыдні, пасля вяртання на радзіму першаснае адчуванне было менавіта такім, нібыта адсутнічаў доўгі час. Шчыра кажучы, едучы з Чэхіі, мы загадзя рыхтавалі сябе да горшага, бо туды інфармацыя з Расіі, а тым больш з Беларусі, даходзіла са значным спазненнем і такім жа скажэннем. Прыемна ўразіла тое, што сітуацыя ў краіне, у адрозненне ад суседзяў, куды больш стабільная.

Першы «подых» крызісу мы адчулі ў Чэхіі праз курсы валют. Калі два тыдні таму там за адзін амерыканскі долар давалі 32,5 кроны, дык праз тыдзень лічбы змяняліся літаральна кожны дзень: 32, 31,5, 31... Яшчэ праз некалькі дзён расійскія турысты, якія былі ў групе, папярэдне патэлефанаваўшы дамоў, як адзін пачалі лічыць кожную крону, адмовіліся ад пакупак. Уразіла, што беларусы на гэтым фоне паводзілі сябе куды больш спакойна — як паводзяць сябе людзі ў адпачынку. Гэта пры тым, што зарплата ў суседзяў (прынамсі ў банкаўскіх служачых, аўдытараў і г. д.) куды большая, чым у суайчыннікаў. Апафеозам сітуацыі стала масавая закупка жанчынамі з Расіі калготак — дайшла інфармацыя, што ў Маскве за імі выстройваюцца велізарныя чэргі.

Дарэчы, не менш за расіян хваляваліся і чэхі, якія працуюць у турыстычнай галіне. Безумоўна, у бліжэйшы час будзе назірацца спад колькасці жадаючых паехаць у гэтую краіну (ды і не толькі ў яе), што адчувальна ўдарыць па кішэні ўладальнікаў гасцініц, рэстаранаў, магазінаў.

Першае, што пачулі ад сяброў дома (пасля віншаванняў з добрым адпачынкам), былі словы: «Долары маеце?» — «Якія долары, мы ж толькі з замежжа!?» — «Шкада, зараз вельмі выгадна «баксы» «скідваць», пакуль курс вялікі трымаецца. Уяўляеце, я ўчора за 50 долараў у рублях набыў цудоўную шафу ў спальню, якая некалькі дзён таму каштавала 180 «баксаў». Увогуле, зараз усе, у каго ёсць наяўныя долары, укладваюць іх у мэблю, бытавую тэхніку. Выгадна».

У праўдзівасці гэтых слоў мы пераканаліся ў той жа дзень. Напрыклад, вялікая зала на першым паверсе універмага «Беларусь» была пустая — усе айчынныя халадзільнікі, пральныя машыны, пыласосы, напэўна, раскупілі ў вокамірг. Збяднеў асартымент замежных аналагаў: у продажы былі толькі печы СВЧ, камбайны для кухні, некалькі пыласосаў.

Харчовы рынак «Байкальскі» побач учора найперш уразіў цэнамі на імпартныя харчовыя тавары. Селядзец «падскочыў» да 82—84 тысяч рублёў (недзе ў 1,5 раза), маленькая бляшанка кавы «Пеле» — да 120 тысяч (удвая). Пачак макаронных вырабаў (0,7 кг) з венгерскай мукі прапаноўвалі ўжо па 47 тысяч рублёў, хаця яшчэ два тыдні таму яго цана складала 27—30 тысяч рублёў. Прыемна, што цэны на каўбасныя вырабы не змяніліся, іх кошт застаўся на ўзроўні 103—130 тысяч рублёў за кілаграм. Бульба на рынку ішла па 11—13 тысяч рублёў за кілаграм. Дарэчы, прагнозы ў гандляроў адносна цэн на «другі хлеб» на бліжэйшы час даволі аптымістычныя — недзе каля 10 тысяч рублёў за кілаграм.

Чаго мы не чакалі, дык гэта багатага выбару курэй і ўсяго таго, што можна з іх вырабіць.

Што яшчэ кінулася ў вочы, дык гэта тое, што на вуліцах часцей пачалі «страляць» цыгарэты. Вядома, кошт прыстойнага «паліва» для курцоў узняўся да 60—100 тысяч рублёў за пачак.

Што яшчэ — ужо з добрага — прыцягнула ўвагу, дык гэта тое, што многія ўпэўнены ў тым, што сітуацыя хутка стабілізуецца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АСНОЎНЫЯ ВЫНІКІ РАБОТЫ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ АБНАДЗЕЙВАЮЦЬ

Паводле папярэдніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, за студзень — жнівень рост аб'ёмаў валавога ўнутранага прадукту ў супастаўных цэнах у Беларусі склаў 11 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Прамысловасць рэспублікі павялічыла вытворчасць прадукцыі на 12 працэнтаў. Прычым, па таварах народнага спажывання гэты паказчык склаў 20,6 працэнта. Вырабаў харчовай групы выпушчана больш на 17,8 працэнта. Адзначаны таксама і рост аб'ёмаў нехарчовых тавараў на 23,7 працэнта. У сельскай гаспадарцы назіраецца адставанне толькі ў намалотах збожжа ў першапачаткова апрыходаванай вазе — на 25 працэнтаў (па даных на 7 верасня) у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Па астатніх раздзелах вытворчасці вёска ідзе з плюсам.

## ПАРАДАК СПАГНАННЯ ПОШЛІН ЗМЯНЯЕЦЦА

Дзяржаўным падатковым камітэтам Беларусі ўнесены змяненні ў метадычныя ўказанні «Аб дзяржаўнай пошліне».

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-цэнтры гэтага ведамства, унесеныя змяненні ўстанаўліваюць парадак спагнання пошліны і залічэння яе ў даход адпаведнага бюджэту дзяржаўнымі натарыяльнымі канторамі, прыватнымі натарыусамі, вызначаюць новы памер пошліны, якая спаганяецца з заяў і скаргаў, што падаюцца ў гаспадарчыя суды.

Новыя змяненні ўступаюць у сілу з 1 кастрычніка гэтага года.

**БЕЛТА.**

**Міхаіл МЯСНІКОВІЧ:**

# «Стратэгічных партнёраў не выбіраюць на адзін дзень»

***З Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаілам Мясніковічам гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»***

**— Міхаіл Уладзіміравіч! Эканамічны крызіс, які перажывае цяпер Расія, негатыўна адбіўся і на беларускай эканоміцы.**

**Стратэгічны партнёр Беларусі міжволі абвастрыў фінансавую сітуацыю ў нашай рэспубліцы. Можа, курс на інтэграцыю з Расіяй кіраўніцтвам Беларусі быў узяты памылкова? Можа, трэба было рабіць стаўку на развіццё гандлёва-эканамічных адносінаў са стабільнымі і эканамічна моцнымі заходнімі краінамі?**

— Курс на інтэграцыю з Расіяй быў выбраны правільна. Гэтае імкненне народ рэспублікі пацвердзіў на рэферэндуме, які адбыўся.

Стратэгічных партнёраў не выбіраюць на адзін дзень. Пра гэта, на мой погляд, вельмі правільна сказаў прэзідэнт нашай краіны А. Лукашэнка ў нядаўнім інтэрв'ю журналістам у Рэчыцы. Кіраўнік дзяржавы цалкам справядліва заўважыў, што выбар стратэгічнага саюзніка не павінен вызначацца па прынцыпу: калі ў краіне ёсць крызіс, значыцца мы з гэтай краінай сябраваць не будзем, а калі няма крызісу — мы сябры. Калі ў вялікай палітыцы кіравацца імгненнай палітычнай кан'юнктурай, можна вельмі хутка апынуцца на звалцы гісторыі.

Так, братняя Расія перажывае сёння не лепшыя часы. Так, эканамічны крызіс у Расіі негатыўна ўплывае на беларускую эканоміку. Але менавіта таму мы павінны згуртавацца і разам вырашаць набалелыя праблемы, шукаць шляхі выйсця з гэтай сітуацыі.

Расія была, ёсць і будзе вялікай дзяржавай. Цяперашняя эканамічная смута рана ці позна завершыцца, і Расія з саюзнай ёй Беларуссю стануць квітнеючымі краінамі. Не стану нагадваць аб тым, наколькі моцна звязаны паміж сабой народы нашых дзяржаў — гэта ўсім вядома. Няма ніякіх сумненняў, што разам мы выйдзем з крызісу.

Курс на развіццё перш за ўсё гандлёва-эканамічных адносінаў з Расіяй апраўдвае сябе ва ўсіх сферах як эканамічна, так і палітычна. Менавіта дзякуючы палітыцы прэзідэнта Беларусі на развіццё цесных эканамічных кантактаў з расійскімі рэгіёнамі ў мінулым годзе ўдалося павялічыць тавараабарот паміж Беларуссю і Расіяй на 40 працэнтаў.

Што датычыцца эканамічна моцных заходніх краін, дык мы ім не патрэбны. Запэўніваючы аб адкрытасці сваіх эканомік, Захад на самай справе адгарадзіўся ад рэспублік былога СССР квотамі і тарыфамі, якія не дазваляюць развіваць гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва ў належнай ступені.

**— Ці паўплывае цяперашні эканамічны крызіс на тэмпы беларуска-расійскай інтэграцыі? Кіраўніцтва абедзвюх краін у першую чаргу сканцэнтравана на вырашэнні найбольш актуальных праблем па выхаду з крызісу...**

— Думаю, што негатыўна не паўплывае. І нават наадварот. У прынцыпе, інтэграцыйныя працэсы могуць і павінны актывізавацца. Бо праблемы, якія стварыліся, лепш вырашаць разам, каардынуючы адзін з адным свае дзеянні.

Актывізаваць, напрыклад, патрэбна работу Парламенцкага Сходу Саюза дзвюх дзяржаў. Яго дзейнасці, на мой погляд, неабходна надаць дынамізм. Гэты орган не павінен разменьвацца на вырашэнне другарадных праблем. Думаю, што Парламенцкаму Сходу, у прыватнасці, трэба ў бліжэйшы час разгледзець пытанне аб увядзенні грамадзянства Саюза Беларусі і Расіі. Гэта важнейшае палітычнае пытанне.

Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка ўжо ўнёс у парламент нашай рэспублікі законапраект, які прадугледжвае магчымасць удзелу ў выбарах у мясцовыя Саветы грамадзян Расійскай Федэрацыі, якія пастаянна жывуць у Беларусі. Такім чынам расіяне змогуць удзельнічаць у рабоце мясцовых Саветаў ужо ў красавіку наступнага года, пасля таго як у рэспубліцы будуць праведзены адпаведныя выбары. Ёсць прапановы і па наступных кроках.

Увядзенне грамадзянства Саюза дазволіць праводзіць адзіную іміграцыйную палітыку (вызначацца ўмовы ўезду-выезду на тэрыторыю — з тэрыторыі Саюза, знаходжання, пражывання, працоўнай дзейнасці і г.д.). Тады могуць быць уведзены адзіныя мадэлі віз для ўезду на тэрыторыю Саюза, вырашацца многія іншыя пытанні. З увядзеннем беларуска-расійскага саюзнага грамадзянства Саюз стане як бы больш адчувальным для жыхароў нашых краін.

**— У рамках Саюза Беларусі і Расіі можа быць прынята рашэнне аб выбарах у саюзны парламент, функцыі якога цяпер выконвае Парламенцкі Сход?**

— Лічу, што такое рашэнне абавязкова павінна быць прынята. Неабходна правесці ўсеагульныя прамыя выбары ў саюзны беларуска-расійскі парламент. Грамадзяне абедзвюх краін павінны непасрэдна, па мажарытарнай сістэме, выбіраць дэпутатаў саюзнага вышэйшага заканадаўчага органа. Ён павінен стаць паўнацэннай, працуючай на пастаяннай аснове, структурай Саюза. Сфарміраваны такім чынам Парламенцкі Сход можа правесці фарміраванне саюзных органаў і назначэнне іх кіраўнікоў.

**— Якіх?**

— Гэта тэма асобнай размовы.

**— Значыцца, галоўную ролю вы адводзіце менавіта саюзнаму парламенту?**

— Не толькі. Патрэбны канкрэтныя, рэальныя крокі, якія неабходна рабіць з мэтай умацавання Саюза. Безумоўна, роля саюзнага парламента ў справе інтэграцыі вельмі вялікая. Між тым, не толькі гэтая структура павінна актывізаваць работу. Трэба ўдасканальваць дзейнасць Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі — яго вышэйшага органа. Пры гэтым Вышэйшы Савет павінен вырашаць найбольш важныя стратэгічныя, канцэптуальныя пытанні развіцця Саюза, вызначаць асновы яго ўнутранай і знешняй палітыкі.

Пэўнай карэкціроўкі дзейнасці патрабуе і Выканаўчы камітэт Саюза. З'яўляючыся, згодна са Статутам Саюза Беларусі і Расіі, пастаянна дзеючым выканаўчым органам, ён, нарэшце, павінен набыць рысы менавіта пастаянна дзеючага органа, г. зн. урада нашага Саюза.

Цяпер Выканаўчы камітэт, як нам уяўляецца, павінен сканцэнтраваць сваю дзейнасць на развіцці нарматыўнай прававой базы Саюза, фарміраванні выканаўчых органаў Саюза, якія валодаюць пэўнымі ўладнымі паўнамоцтвамі, якія будуць дэлегаваны саюзнаму ўраду краінамі — удзельніцамі Саюза.

Паколькі Саюз з'яўляецца аб'яднаннем дзвюх раўнапраўных суверэнных дзяржаў, уяўляецца няправільнай практыка стварэння міждзяржаўных органаў на базе нацыянальных, а на практыцы — расійскіх.

Мэтазгодна ствараць самастойныя, адасобленыя дзяржаўныя органы ў тых галінах і сферах дзейнасці, кіраванне якімі з'яўляецца сферай распараджэння Саюза і якія рэальна маюць міждзяржаўны характар. У іншых выпадках можна практыкаваць утварэнне сумесных камісій адпаведных органаў дзяржаў-удзельніц. Але пры гэтым неабходна разгледзець пытанне аб перадачы Саюзу кіравання асобнымі галінамі і сферамі дзейнасці з адначасовай ліквідацыяй ці пераўтварэннем адпаведных нацыянальных органаў кіравання.

Актуальным з'яўляецца таксама пытанне аб эфектыўным узаемадзеянні органаў Саюза. Часта назіраецца няўзгодненая дзейнасць Выканкама і Парламенцкага Сходу, калі адзін і той жа праект дакумента ці канцэпцыя распрацоўваюцца ў двух органах адначасова без усякай сувязі паміж сабой. Таму мэтазгодна, каб план работ гэтых органаў былі ўзгоднены паміж сабой. Пры гэтым Вышэйшы Савет павінен выступіць як каардынатар дзеянняў усіх органаў Саюза.

Вельмі важна ўзмацніць Саюз у плане эканамічнага супрацоўніцтва. Зыходзячы з гэтага, трэба пашырыць яго паўнамоцтвы за кошт перадачы ў распараджэнне Саюза сфер дзейнасці, якія маюць узаемную цікавасць, і іх кіраванне. Так, у рамках Саюза, а не ў асобнай дзяржаве, могуць рэалізоўвацца доўгатэрміновыя і дарагія праекты, накіраваныя на дасягненне агульных для абедзвюх дзяржаў мэтаў.

Варта разгледзець пытанне аб аб'яднанні асобных галін вытворчасці. Безумоўна, перадача ў кампетэнцыю Саюза такіх агульных галін павінна суправаджацца стварэннем новых галіновых органаў ці арганізацый Саюза. Замест беларуска-расійскіх дзяржаўных прадпрыемстваў можна арганізоўваць прадпрыемствы Саюза. Такім чынам, інтэграцыя будзе рэальнай, ажыццяўляемай як зверху (саюзныя органы), так і знізу (сумесныя праекты і віды дзейнасці).

У цэлым жа хацеў бы адзначыць, што развіццё Саюза з'яўляецца і патрэбнасцю, і праблемай, прычым як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўнях. Яго эфектыўнае функцыянаванне залежыць ад паслядоўнай палітыкі дзяржаў, накіраванай на далейшае ўдасканаленне Саюза.



# ПАРОЛЬ «АТАКА!»





**У РАЁНЕ ВУЧЭННЯЎ знаходзяцца міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік А. Чумакоў, генералы і афіцэры ваеннага ведамства, дэлегацыя Маскоўскай ваеннай акругі, ваенныя аташэ многіх дзяржаў.**

**Абуз-Лясноўскі палігон вядомы тым, што амаль сорак гадоў таму тут праводзіліся вельмі адказныя вучэнні з імітацыяй ядзернага выбуху, якімі кіраваў Георгій Жукаў. Не пустуе стары палігон і ў гэтыя гады: час ад часу па чыгунцы і сваім ходам сюды прыбывае асабісты састаў і баявая тэхніка розных падраздзяленняў беларускай арміі.**

**У ходзе сёлетніх вучэнняў тут адпрацоўваліся ўсе элементы абарончага бою ва ўмовах актыўнага радыёэлектроннага процістаяння ўмоўнага праціўніка.**

**Воіны 50-й брыгады і 38-й асобнай мабільнай брыгады, якія выступалі ў ролі тых, хто абараняўся і тых, хто нападаў, паказалі высокую баявую і маральна-псіхалагічную падрыхтоўку.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**НА ЗДЫМКАХ: за ходам вучэнняў сочыць міністр абароны А. Чумакоў і госць вайскоўцаў — старшыня Гродзенскага аблвыканкама А. Дубко; адзін з момантаў атакі; камандзір дэсантнікаў капітан Сяргей Корза.**

***Фота аўтара.***



# ВЕДАЦЬ МІЦКЕВІЧА — ЗНАЧЫЦЬ ЧЫТАЦЬ ЯГО

**Два дні ў Доме дружбы праходзіла навуковая канферэнцыя «Міцкевіч і нацыянальныя культуры», у якой прынялі ўдзел беларускія і замежныя даследчыкі.**

**Талент аднаго чалавека сёння дае тэмы для аналізу — што ёсць малая Айчына, дзе яна — Літва Міцкевіча, як рамантызм паэта спалучаўся з патрыятызмам грамадзяніна, якімі моўнымі крыніцамі жывілася яго творчасць і як паўплывала на сучасныя славянскія мовы? Але пры падвядзенні вынікаў канферэнцыі погляды навукоўцы былі скіраваныя ў сучаснасць.**

**Прафесар Джым ДЗІНГЛІ:**

«У мяне на нарадзе секцыі літаратуразнаўства з'явіліся некаторыя думкі. Ці мы, навукоўцы гуманітарнага профілю, павінны пакінуць займацца сваёй справай і задаваць сабе пытанне: усе мы ведаем пра Міцкевіча, альбо не? Бо такога не будзе. Што сапраўды важна — ведаць, як яго чытае кожнае пакаленне людзей. І што рабіць, калі яго не чытаюць?..»

**Прафесар Адам МАЛЬДЗІС:**

«Беларусь — што тая Папялушка, якая павінна заняць сваё месца ў сям'і. Хто будзе прынцам, які яе выведзе ў свет, можа і не так важна. Бо пра Беларусь загаварылі зараз. А каб сцвердзіць сябе ў свеце, Міцкевіч падказаў шлях — абапірацца на духоўнасць, старадаўнія хрысціянскія традыцыі».

Пасля заканчэння навуковай канферэнцыі адбылася яшчэ адна надзвычай цікавая і важная падзея, якая мае дачыненне да юбілею. У 1908 годзе ў Мінску была створана бібліятэка імя Міцкевіча. У дваццатым годзе яе вывезлі ў невядомым напрамку, хутчэй за ўсё, у бок Варшавы. Нядаўна ўлады горада Беластока перадалі некалькі тысяч кніг Беларусі, сімвалічна вярнуўшы бібліятэку Міцкевіча. Яна знайшла сваё месца і адкрылася ў касцёле святых Сымона і Алены.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

**Міхась СКОБЛА**

## ПАМЯЦІ ДУБА АДАМА МІЦКЕВІЧА Ў ШЧОРСАХ

*Трыста летаў спяліў жалуды,*
*дзвесце памятаў голас Адамаў,*
*сто ў дупло не пускаў халады —*
*свечку ставіў па ім на Дзяды.*
*Смерць сустрэў у абдымках кайданаў.*

*Тры стагоддзі — падлеткавы век.*
*Дык навошта заўчасная трызна?*
*Надакучыла доля калек.*
*Знімі шапку, Osczyzno.*

*Па-над голаю кронаю чуб*
*зеляneўся пад ветрам вясёлым.*
*Абручамі задушаны дуб,*
*бы ў каморы кадушка з расолам!*

*Не загадана лекаваць.*
*Дуба даў — пацвяляюцца здані.*
*Дзе ж мы будзем волю каваць,*
*як дубоў на радзіме не стане?*

*Лес яловы задушна сапе,*
*дзе гайсаюць нячысцікі збродняй...*
*Ён пярун выклікаў на сябе,*
*каб успыхнуць адчайнай паходняй!*

*Абгарэў на ахвярным вагні.*
*Каб да тла, да зялёнага гала,*
*хоць грымотнае неба нагні —*
*у маланак запалу замала!*

*Як падзьме на світанні норд-ост,*
*Беларусь грубкі дубам напаліць.*
*З кожнай хаты да Бога наўпрост*
*дым уздыме паветраны мост, —*
*узнялася каб*
*Вечная памяць.*

# «ТРЫУМФ ЗЛА НЕ КАНЧАТКОВЫ...»

Сярод знакамітых беларускіх, рускіх, польскіх літаратараў XIX стагоддзя, якія аказалі значны ўплыў на грамадства не толькі сваёй выдатнай літаратурнай творчасцю, але і грамадска-палітычнай дзейнасцю, адно з першых месцаў належыць Адаму Міцкевічу. Ён — адзін з тых выдатных прадстаўнікоў літаратуры, на мастацкія творы якіх моцны ўплыў аказала не толькі само жыццё, але і іх захады, каб зрабіць гэтае жыццё лепшым.

Важнай падзеяй стала заснаванне ў канцы 1817 года Адамам Міцкевічам разам з Томашам Занам, Юзафам Яжоўскім, Францішкам Малеўскім, Янам Чачотам, Ануфрыем Петрашкевічам студэнцкага згуртавання філаматаў — сяброў навук. Як адзначыў пазней вядомы ўдзельнік арганізацыі Ігнат Дамейка, Адам Міцкевіч з'яўляўся «душою таварыства». Разам з Томашам Занам ён напісаў статут арганізацыі.

Ідэі асветніцтва ў таварыстве філаматаў даволі цесна перапляталіся з нацыянальна-вызваленчымі тэндэнцыямі. Свае погляды і імкненні члены таварыства мелі намер ажыццяўляць не толькі ў студэнцкія гады, але на працягу ўсяго жыцця. Нават у статуце таварыства прадугледжвалася, што яго члены застаюцца сябрамі арганізацыі назаўсёды. Гэта было даказана многімі, у тым ліку, а магчыма нават у першую чаргу, Адамам Міцкевічам.

Яшчэ больш значнай арганізацыяй з'явілася таварыства філарэтаў, гэта значыць дабрадзейных, якое дзейнічала ў 1820—1823 гадах. Накіраванасць новай арганізацыі вызначала даволі яскравая нацыянальна-вызваленчая афарбоўка. Кіраўнікамі арганізацыі, сярод якіх быў і Міцкевіч, які ў гэты час ужо настаўнічаў на Ковеншчыне, рабіліся захады, каб устанавіць кантакты з рускімі дваранскімі рэвалюцыянерамі.

Звяртаюць на сябе ўвагу паважлівыя адносіны Адама Міцкевіча да пытання аб нацыянальна-дзяржаўным вызначэнні народаў. Як ён засведчыў пазней, чытаючы курс лекцый аб славянскіх літаратурах у Парыжы ў 1842 годзе, польскія паэты «не падзялялі ілюзій палітыкаў» адносна аднаўлення ў будучым усходніх межаў Польшчы. Зразумела, што ў першую чаргу тут мелася на ўвазе нацыянальна-дзяржаўнае вызначэнне беларускага народа.

Хаця арганізацыя філарэтаў была больш заканспірыраванай, аднак яе раскрылі царскія ўлады. Усяго было арыштавана не меней як 166 чалавек, сярод якіх пераважалі выхадцы з беларускіх зямель.

Стварэнне і дзейнасць таварыстваў філаматаў і філарэтаў, а таксама іх адгалінаванняў супала па часе з арганізацыямі дзекабрыстаў у Расіі. Хаця члены таварыстваў, што дзейнічалі ў Віленскім універсітэце, у тым ліку А. Міцкевіч, не ставілі перад сабою такіх радыкальных мэтаў, як дзекабрысты, скіраваных на звяржэнне існуючага ў Расійскай імперыі манархічнага ладу, аднак яны ўсё бліжэй падыходзілі да задач нацыянальнага вызвалення. У сувязі з гэтым нельга не адзначыць іх кантакты з рускімі дваранскімі рэвалюцыянерамі. У прыватнасці, Міхал Рукевіч, з'яўляючыся адным з актыўных дзеячаў таварыстваў філаматаў і філарэтаў, быў сярод арганізатараў дзекабрысцкага «Саюза ваенных сяброў» у Літоўскім корпусе.

Што датычыць Адама Міцкевіча, то, будучы высланым у цэнтральныя рэгіёны Расіі, ён прыбыў у канцы 1824 года ў Пецярбург, дзе пазнаёміўся з некаторымі дзеячамі руху дзекабрыстаў. Ад іх ім было нават атрымана даручэнне рабіць практычныя захады па збліжэнню прадстаўнікоў дзекабрыстаў з радыкальна настроенымі дзеячамі Беларусі, Польшчы, Літвы. З мэтаю рэалізацыі гэтай справы ён меў сувязі з удзельнікамі паўднёвага таварыства дзекабрыстаў і польскага патрыятычнага таварыства.

Ужо будучы ў Маскве, Адам Міцкевіч даведаўся аб узброеным выступленні ў сталіцы 25 снежня 1825 года і паражэнні паўстання дзекабрыстаў. Такі зыход ён цяжка перажываў.

Увайшоўшы ў маскоўскае літаратурнае асяроддзе і стаўшы частым госцем славутага літаратурнага салона княгіні-паэтэсы З.Валконскай, ён пазнаёміўся і зблізіўся з выдатнымі дзеячамі рускай літаратуры, у тым ліку з Аляксандрам Пушкіным. Дзякуючы падтрымцы і хадайніцтву сваіх рускіх калег і сяброў ён змог атрымаць дазвол і выехаць у пачатку 1829 года за мяжу.

Уважліва сачыў Адам Міцкевіч за ходам паўстання 1830-1831 года ў Польшчы і Заходняй Беларусі. Яго творы гэтага часу вызначаюцца верай ў канчатковы поспех вызваленчай барацьбы супраць царскага рэжыму. Гэта асабліва яскрава гучыць у найбольш значных творах паэта — паэме «Дзяды» (трэцяя частка) і ў «энцыклапедыі жыцця літвінаў», «шляхецкай гісторыі» — «Пан Тадэвуш».

Са спадзяваннямі былі сустрэты Адамам Міцкевічам рэвалюцыйныя падзеі 1848 года ў Еўропе. Калі рэвалюцыя ахапіла Італію, Адам Міцкевіч заняўся арганізацыяй польскага рэспубліканскага легіёна. Гэтае фарміраванне ў саставе вызваленчай арміі Гарыбальдзі мужна змагалася супраць агульнага прыгнёту польскага, італьянскага і іншых народаў — кіруючых колаў Аўстрыйскай імперыі.

Характэрна, што ў сувязі з паражэннем рэвалюцыі 1848-1849 гадоў Адам Міцкевіч не страціў веры ў лепшую будучыню. Аб гэтым сведчаць яго словы гэтага часу: «Трыумф зла не канчатковы, і ўсё добрае, што засталося ў душах нашых, дачакаецца адраджэння».

Яшчэ больш актыўнай стала грамадска- палітычная пазіцыя Адама Міцкевіча ў час руска-турэцкай вайны, якая пачалася ў 1853 годзе.

Разам з іншымі польскімі дзеячамі ён актыўна працаваў над стварэннем легіёна, але настойваў, каб той дзейнічаў самастойна, а не пад замежным камандаваннем. Разам з тым Адам Міцкевіч рабіў захады па арганізацыі яўрэйскага легіёна. Пры гэтым ён зыходзіў з таго, што барацьба павінна весціся з расійскім абсалютызмам.

У час гэтай энергічнай дзейнасці Адам Міцкевіч нечакана памёр у Канстанцінопалі: па афіцыйнай версіі ад халеры, але існавала меркаванне, што ён быў атручаны. Так закончыўся жыццёвы шлях не толькі сусветна прызнанага паэта, але і вядомага грамадска-палітычнага дзеяча.

**Міхаіл КАСЦЮК,**
**акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА*

# СВЯТЛО ВЕРЫ І ЛЮБОВІ

*(В. Коўтун. Крыж міласэрнасці. Мінск. Мастацкая літаратура. 1996)*

Валянціна Коўтун аддала раману каля пятнаццаці гадоў. Асобныя раздзелы гэтага эпічнага твора пачалі друкавацца яшчэ ў 1980 годзе і адразу звярнулі на сябе ўвагу не толькі тонкім празаічным майстэрствам аўтаркі, але і багаццем факталагічнага матэрыялу, дасканаласцю ў пабудове сцэнаў і дыялогаў. Вобраз Алаізы Пашкевіч прыцягнуў на старонкі не аднаго героя — дзесяткі. І пра кожнага можна расказваць, як пра створаны дзеля яго аднаго. Дзівосная, легендарная, вялікая Эліза Ажэшка. Праз яе вобраз звязваецца гераічнае дзвюх эпох у жыцці — 1863 год і адраджэнне пачатку XX стагоддзя.

Па насычанасці гістарычнымі рэаліямі, па высокай мастацкай якасці стварэння Часу і яго Герояў, па унікальнай стылістыцы, праўдзівасці і глыбокай пазнавальнасці раман В. Коўтун «Крыж міласэрнасці» па праву заняў месца ў шэрагу лепшых узораў нацыянальнай гістарычнай прозы.

Усяму папярэднічала тытанічная нават па фізічнай напружанасці праца. Яна з зайздроснай настойлівасцю вывучала архівы і бібліятэчныя знаходкі ў С.-Пецярбурзе, Вільні, Львове, Гародні, Варшаве, Кракаве. Яна зжылася з той эпохай праз яе галоўных сведкаў — дакументы: бясконцае мноства іх зроблена ад рукі; я бачыла гэты дакументальны россып у асабістым архіве пісьменніцы. Пасля ўсё гэта будзе аўтаркай ўплецена ў мастацкую тканіну рамана, што, без сумневу, дасць магчымасць адчуць чытачу подых эпохі, у якую жыла А. Пашкевіч. Эпоха «Крыжа міласэрнасці» — у асобах, у шматплыннасц падзей, у супярэчлівасці поглядаў яе творцаў і сузіральнікаў. А гэта дае права назваць раман эпічным творам пра асветніцкае адраджэнне пачатку XX стагоддзя. Відавочна, галоўнае ў жыцці Алаізы — лёс роднай мовы. Ужо з першых старонак: «Як гэта проста аказваецца... Не па-расейску, не па-польску. А вось чытае ён па-свойму, той самай гаворкай, на якой... У сваіх жа вёсках...»

Светлы воблік Алаізы, прамень не яе таленту... Яны бачацца цяпер у жаночых абліччах усяе Беларусі, праяўляюцца ў творчасці сучасных беларускіх пісьменніц... Бо найперш гэта святло стварэння, святло веры і любові.

**Ганна ЗАПАРТЫКА.**

*Я ТАК ЛІЧУ*

# СТАРАЯ ПЕСНЯ ПРА ГАЛОЎНАЕ

Да адпраўлення дызель-цягніка застаецца хвілін пяць. У вагон заходзіць прадавец газет, відаць, яшчэ нявопытны, зусім маладзенькі. Пачынае дрыжачым галаскам рэкламаваць свой тавар. Следам за ім у вагон сунецца здаровы, высокі, насаты дзядзька, па вопратцы і выгляду — перадавы механізатар на пенсіі. Паслухаўшы хлопчыка, дзядзька гучна, упэўнена кажа: «Не ......!» і пераможна аглядае вагон. Далей ён выдае наступны пасаж: «Рабіць не хочуць.. Толькі б лынды біць. Во, газеты прадае, а яго б на трактар!» Хлопчык чырванее і хуценька знікае.

«А вы што, без мата не можаце? Тут жа жанчыны», — гаворыць дзядзьку сівы армянін. «А што? Я няпраўду кажу?» Да дыскусіі падключаюцца і іншыя пасажыры. Цягнік называецца Гомель—Харобічы. Тут у асноўным едуць украінцы, якія цэлы дзень адстаялі на гомельскім рынку. Украінцы возяць да нас прадукты, але больш танныя, чым у нас. Жыццё ў суседзяў вельмі падобнае на расійскае: пенсіі і зарплаты амаль што не плацяць і яны, да таго ж, невялікія. Людзі вымушаны гандляваць у Беларусі, потым мяняць «зайчыкі» на грыўні, альбо проста купляць у нас тое, чаго няма ў іх.

Гэта такое жыццё, што мала чаму тут можна пазайздросціць. Але па-іншаму не атрымліваецца. Таму выступленне «перадавога механізатара» украінцы прымаюць блізка да сэрца.

«А як яму зарабляць?! — крычыць жанчына з мілым тварам (па яе словах, настаўніца), якая дзевяты месяц не атрымлівае зарплату. — Ён у вас украў што?» — «Няхай ідзе на завод, у калгас», — дзядзьку нічым не пахіснуць. «А на заводзе не плацяць. Тым больш у калгасе. Вось у вас якая пенсія?» — гэта ўсё той жа армянін. «Нічога пенсія. Я яе зарабіў! Два мільёны ў мяне пенсія. Дык я ж рабіў! А ён што?» — «Вось. Гэтаму хлопчыку за два мільёны трэба яшчэ пабегаць. Ён што, бандыт? Ён свае грошы сумленна зарабляе». Ну, і гэтак далей. Адна з самых папулярных дыскусій зараз.

А твар у дзядзькі гладкі, румяны. Дзіўна, як яму ўдалося так добра захавацца? Звычайна ў механізатара да пяцідзесяці гадоў ужо ёсць «букет» разнастайных хранічных захворванняў: савецкія трактары і камбайны былі прыстасаваны да ўсяго, апрача чалавека. І рэдка хто з механізатараў перацягваў 60-гадовую мяжу. Да таго ж сапраўдныя рабацягі да любой працы, я заўважыў, ставяцца з павагай. Самыя «ідэйныя» — дробны і сярэдні кіруючы персанал, кшталту кладаўшчыкоў, брыгадзіраў і да т. п.

Такім чынам, «песня» сапраўды старажытная, без перабольшання: дзеці ў бацькоў, як заўсёды, атрымаліся не такія, як трэба. У нашым выпадку, праўда, накладваецца фінансава-эканамічнае становішча краіны. Яно павінна быць намнога лепшым, таму дзеці аўтаматычна трапляюць у разрад «нехарошых», бо жадаюць зарабляць грошы крыху іншымі, чым бацькі, спосабамі.

У прынцыпе, можна было б і не звяртаць увагі на гэтага дубаватага дзядзьку, які прывык жыць па формулах. Але ў той ці іншай ступені падобныя настроі ўласцівыя для многіх са старэйшага пакалення. Дзіўна, ужо васемнаццаты год (калі за кропку адліку браць 1985-ты) мы спрабуем перайсці да больш разумнага жыцця, а воз усё там жа. У сэнсе: маральныя каштоўнасці сацыялізму жывуць і працвітаюць.

Я нічога не скажу, каштоўнасці правільныя і добрыя. На жаль, жыццё дрэннае і не дае магчымасці жыць згодна з гэтымі каштоўнасцямі. Я прыгадваю сваю знаёмую, мы з ёю разам вучыліся. Справа звычайная — дыплом тэхнікума не корміць ніяк, муж «часова-пастаянна» не працуе, а дочкам ужо па 16 гадоў. Вось яна і ездзіць праз мяжу гандляваць. Так і гэтак прыкідваю, я многіх такіх ведаю, ніяк на злачынцаў не цягнуць. Проста такая карта выпала.

Калі разабрацца, то ці вінаватыя гэтыя няшчасныя ў тым, што беларускі рубель нічога не варты, а расійскі, нягледзячы на сённяшнія катаклізмы, усё яшчэ грошы, а не проста каляровая паперка?

Што датычыць узаемаадносінаў бацькоў і дзяцей, то мне даўно карціць задаць першым адно пытанне: а што вы нам пакінулі? Тут нават не размова пра развалену краіну, разбураную эканоміку, нацыянальныя праблемы — гэта і так навідавоку. Якія вы нам пакінулі шанцы? Можна было б пагадзіцца з небагатай і запушчанай спадчынай у спадзяванні на свае здольнасці, энергію і жаданне змяніць жыццё да лепшага. Але нічога гэтага ад маладога пакалення не патрабуецца, дакладней — не запатрабавана. Старэйшае пакаленне само вырашыла, як нам жыць у бліжэйшыя дзесяць—пятнаццаць гадоў. Фігуральна кажучы, нас імкнуцца «пасадзіць на трактар», альбо «паставіць за станок».

Можна разгарнуць пытанне шырэй: ці мае маральнае права старэйшае пакаленне судзіць маладое? Улічваючы ўсё тую ж спадчыну. «Перадавы механізатар», канешне, працаваў беззапаветна, яму далі прыстойную (у нашых умовах) пенсію, больш таго, прыносяць своечасова, і для яго гэтага хапае. Так бы мовіць, мяжа магчымага дабрабыту. А мне, прашу прабачэння, гэтага мала. Майму сыну будзе таксама мала (закон жыцця) таго, чаго хапіла б мне.

Яшчэ адзін, не вельмі вядомы закон: першае пакаленне накоплівае, другое пакаленне накоплівае і транжырыць, трэцяе ўжо проста транжырыць, а чацвёртаму трэба ўсё пачынаць спачатку. Праўда, гэта датычыць нармальнага грамадства, ні ў якім разе не нашага, якое як пачало ў 1917 годзе пераадольваць цяжкасці, дык дагэтуль спыніцца не можа. Цяжкасці сталі неабходным элементам жыцця. «Перадавы механізатар» нездарма ўспомніў трактар — ён без яго свайго (і чужога) жыцця не ўяўляе. Проста не падазрае, што ёсць іншае. Іншае яго пужае, калі ён з ім пагодзіцца, то ўсе яго ахвяры акажуцца дарэмнымі. Беззапаветная праца акажацца звычайнай катаргай, а вынікі жыцця — нулявымі. Дый нашчадкам пакінуць нечага, апрача мадэлі паводзінаў, якой ужо немагчыма зайздросціць хоць каму-небудзь.

З гэтага пункту погляду тое, што сёння адбываецца ў Расіі, не ёсць вынік палітыкі Ельцына, Чарнамырдзіна ці алігарха Беразоўскага. Гэта ёсць вынік волевыяўлення саміх расіян. Яны самі выбралі сабе прэзідэнта, тым самым даўшы яму дазвол на палітыку, якая прывяла Расію да катастрофы. Знаходзім усё той жа інфантылізм і дзіцячае жаданне перакласці ўсю меру адказнасці на каго-небудзь. Няхай кіруе «цар», а мы тут за соллю стаім. Настрой, уласцівы і беларусам. Так што паралелі можна правесці даволі лёгка.

Калі праводзіць іх яшчэ далей, то наша жаданне любой цаной захаваць ілюзію шчаслівага заможнага жыцця ўжо ў бліжэйшы час можа скалануць эканоміку так, што расійскі крызіс падасца семкамі. Для такога прагнозу не трэба мець эканамічную адукацыю. Неабходна толькі мець на ўвазе тое, што чым больш рынак будзе насычацца пустымі грашамі, тым да больш недасягальных вышынь будзе ўзлятаць інфляцыя, а значыць і цэны на ўсё. І ў нейкі момант мяжа дапушчальнага будзе паспяхова пяройдзена. Тады я нам не пазайздрошчу.

Мы жывём зараз у доўг. У многім праядаем рэшткі таго, што засталося ад БССР. Адна толькі лічба: да 70 працэнтаў асноўных фондаў зношана і патрабуе тэрміновай замены. Удумайцеся: нашым дзецям фактычна застануцца толькі пустыя будынкі... Ідэальныя ўмовы для чацвёртага пакалення, якое, як вядома, вымушана пачынаць усё спачатку...

Ды мы згодныя пачаць на пустым месцы. Толькі не перашкаджайце і не цягніце нас у багну старых уяўленняў.

Прашу прабачэння, калі вы былі такія разумныя, то чаму вы зараз такія бедныя?...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ЗВЯЗДА
12 верасня 1998 г.
5



# «...Я ЎСЯГО ДАБ'ЮСЯ САМ»

ШЛЯХ, які прывёў гэтага чалавека з небеларускім прозвішчам і — ужо паверце мне! — зусім небеларускай знешнасцю, у беларускае мястэчка на Віцебшчыне, такі пакручасты і доўгі, што ад аднаго толькі ўяўлення і спробы запомніць усе «прыпынкі» на гэтым шляху, пачынае пакалваць у скронях. Ёсць у Казахстане, на самай амаль мяжы з Алтайскім краем, ля вытокаў Іртыша, горад Сяміпалацінск. Там знаходзіцца самы буйны і вядомы ядзерны палігон. Горад заснавалі калісьці казакі як фарпост на мяжы з Кітаем. Адным з казакоў быў дзед Аляксандра. Так што можна з упэўненасцю сказаць, што мой герой — карэнны сяміпалацінец, да таго ж спадчынны казак (прашу не блытаць з казахамі, якіх у Казахстане, натуральна, нашмат больш).

Маці, маленькая тоненькая жанчына, з тых, што вельмі лёгка прыгнуць, але немагчыма зламаць, гадавала яго адна. Жылі спачатку ў пасёлку Чаган, дзе яна працавала ў кабальтавых шахтах, потым пераехалі ў сам Сяміпалацінск, дзе атрымалі аднапакаёўку — цэлы палац для дваіх... Зачараваны прыгажосцю роднага краю, Аляксандр з маленства хацеў быць мастаком. Імкнуўся трапіць на вучобу ў Маскву, але маці не змагла адпусціць адзіную родную крывінку так далёка. Ён паступіў у мясцовы педагагічны інстытут на мастацка-графічны факультэт. Зоя Андрэеўна працавала на некалькіх работах, абы вывучыць сына. Ён закончыў інстытут, уладкаваўся на працу...

Але ў няпоўныя дваццаць сем, у 84-м, Аляксандр вырашыў пакінуць родны горад. Прычыны? Іх было шмат, і самая важкая — ядзерныя выпрабаванні. Яны ўжо прывыклі, што падчас падземных выбухаў чай выплюхваецца са шклянак, што посуд у сервантах прыклеены за донцы цукровым сіропам — каб не зваліўся і не пабіўся, а пры патрэбе лёгка было ўзяць. «Але вы не ўяўляеце, як гэта страшна — бачыць, як твае знаёмыя, сябры, равеснікі пакрываюцца плямамі, а ўрачы ўсім ставяць адзін дыягназ: нервы. Як паміраюць людзі ад рака — у Беларусі пасля Чарнобыля няма такой смяротнасці, якая была там у мірным 84-м...»

А ў Аляксандра была яшчэ мара — паступіць у аспірантуру ў Маскве, павучыцца ў сапраўдных майстроў. І ён разаслаў лісты ў аддзелы адукацыі цэнтральных абласцей Расіі з просьбай знайсці месца настаўніка малявання і працы і сякое-такое жыллё... Так ён апынуўся на Смаленшчыне, недалёка ад Беларусі. Маці прывёз з сабой, у яго і думкі не было пакінуць яе там адну...

Яны ехалі ў Сяміпалацінск, сустракаць са сваякамі Новы год, калі ў Смаленску прама на вакзале з Зояй Андрэеўнай здарыўся інсульт. Яна праляжала ў абласной бальніцы больш за месяц, урачы гаварылі, што калі выжыве — будзе цуд. Аляксандр штодня матаўся туды-сюды: і ў школу, і да маці. Выходжваў яе, як маленькую. І цуд адбыўся. Можа таму, што ён проста ўявіць не мог, як гэта з ім будзе без добрых маміных вачэй.

Тады ён вырашыў вяртацца назад, у Сяміпалацінск. Хваробу маці ўрачы патлумачылі пераменай клімату. У абяцаным жыллі — пакойчыку ў школьным інтэрнаце хвораму чалавеку, які ледзь ходзіць, папрацаваць цяжка. А там за імі яшчэ заставалася тая аднапакаёўка. Пра аспірантуру ён ужо забыўся — якая вучоба, калі трэба даглядаць хворую... Аказалася, дарогі назад ужо няма: урачы ў адзін голас сказалі, што яшчэ адна рэзкая перамена клімату заб'е маці абавязкова...

Краевугольным каменем іх далейшых блуканняў было жыллё. Спадзеючыся знайсці штонебудзь больш прыстойнае, чым пакой інтэрната, Аляксандр трапляе ў Оршу, бо гэта нават бліжэй, чым Смаленск. Яму ўдаецца ўладкавацца мастаком у канструктарскае бюро пры адным буйным заводзе. Прывозіць з сабой маці, здымаюць пакойчык, потым жывуць у інтэрнаце. Жывуць надзеяй: вось-вось атрымаюць кватэру, яны на чарзе — 30-я. І тут чаргу бюро аб'ядноўваюць з агульназаводскай. Аляксандр у ёй — амаль 500-ты. Як патлумачылі, чакаць давядзецца не менш як дзесяць гадоў (быў 86-ты)...

Яны паехалі ў Сенненскі раён — там загадчыку клуба абяцалі калгасны дом. «Дом» аказаўся развалюхай, у якой не тое што хвораму — здароваму чалавеку жыць не было як. Памыкаўшыся так некалькі месяцаў, Нікалаенкі паехалі ў Полацкі раён: там у пасялковай школе знайшлося месца настаўніка працоўнага навучання і пакой у інтэрнаце. Там, здаецца, і няблага было, але ўзнік канфлікт з дырэктарам школы.

Тут лічу патрэбным заўважыць, з асабістых назіранняў, што Аляксандр Нікалаенка — чалавек па-сапраўднаму інтэлігентны. З тых наіўных нешматлікіх дзівакоў, якія кожнаму вераць і стараюцца ў кожным разгледзець нешта добрае. Калі ж апошняе не ўдаецца, яны змагаюцца са злом з усіх сіл, зноў наіўна верачы, што справядлівасць усё ж абавязкова пераможа («барацьба з ветракамі» — так гэта, здаецца, у нашым грамадстве называецца).

Калі яго звольнілі са школы за неіснуючы прагулы (а на самай справе, як ён упэўнены, — за заўвагу, зробленую дырэктару на педсавеце), ён у пошуках праўды дайшоў ажно да саюзнай пракуратуры. Але справу да канца не давёў: седзячы ў Маскве ў чарзе на прыём, пабачыў карціну, якая прымусіла адмовіцца ад цяжбы. З кабінета выйшаў шахцёр з асветленым тварам і аб'явіў усім: «Ну вось, нарэшце, за восем гадоў я дабіўся праўды — адноўлены на працы...» У яго не было часу і сродкаў даказваць сваю правату. І ён проста сабраў рэчы, забраў маці і паехаў у Шуміліна...

У Шуміліне, пахадзіўшы па кабінетах, ён выбіў-такі сабе жыллё (справа была 10 гадоў таму). Жыллё, па шумілінскіх мерках, звычайнае: палова аднапавярховага дома без выгод. Праўда, пажыць там давялося нядоўга: камісія засведчыла аварыйны стан памяшкання, патрабаваўся капрамонт. У красавіку 90-га прыходзіць папера з райвыканкама: высяляйцеся ў дом № 12 па вуліцы Талмачова. Аляксандр ідзе туды і... натыкаецца на прыватны дом, у якім спакойна жыве сям'я ветэрана...

Яны, вядома, нікуды не выселіліся. Справа дайшла да суда. Суд пастанавіў: выселіць Нікалаенку ў дом № 15/12. Аляксандр ведаў той пусты дом па вуліцы Талмачова. Але ён, наіўны чалавек, з дзвюма паперкамі на руках, у якіх розныя адрасы, не ведаў, што яму рабіць. І стаў шукаць праўды. «Праўда» прыйшла ў адказе з жылкамунгаса БССР: «Засяляйцеся ў дом № (увага! — **А. Л.**) 15/14». І толькі праз год пасля засялення ў тую злашчасную кватэру з няпэўным нумарам ён нарэшце атрымаў ордэр, у якім значыўся дакладны адрас дома — № 15...

**Мяне здзівіў гэты чалавек. Нават крыху збянтэжыў. Бо з першых хвілін сустрэчы сказаў словы, якія ад аўтараў пісьмаў у рэдакцыю чуеш даволі рэдка. «Мне ад газеты нічога не патрэбна. Я ўсяго даб'юся сам...» Было, як ужо напісана, несамавітае здзіўленне. Потым яго змяніла нешта падобнае на абурэнне: дзеля чаго тады трэслася цэлую ноч у цягніку? Ехала ж у Шуміліна з высакароднай мэтай: напісаць, дапамагчы... Але, пакуль гаварыла з Аляксандрам Нікалаенкам, абурэнне знікла. Засталіся толькі здзіўленне і ўпэўненасць. Здзіўленне — адкуль чалавек бярэ сілы? Упэўненасць — ён сапраўды ўсяго даб'ецца сам. І яшчэ — пра яго трэба напісаць. Бо напісаць, здаецца, ёсць што. Зрэшты, як і пра кожнага з людзей...**

Ён загарэўся ідэяй — адкрыць сваю мастацкую школу. Але наткнуўся на непрабівальную сцяну чыноўнікаў. І тады ён адкрыў школу як прыватнае прадпрыемства. Толькі тых мізэрных грошай, што плацілі яму вучні, не хапала нават на мальберты... І ён зноў стаў шукаць праўды: няўжо дзяржаве не патрэбна такая школа?.. І дабіўся-такі свайго: «наверсе» прынялі рашэнне стварыць мастацкі клас пад эгідай раённай улады...

Ён ужо рыхтаваўся пачаць заняткі ў тым класе — новая, усёпаглынальная бяда. Зоі Андрэеўне, якая ўсё бачыла і прымала блізка да сэрца, рабілася ўсё горш, і тры гады таму другі інсульт спаралізаваў яе, напэўна, на ўсё жыццё...

У бальніцу ён маці не аддаў: ведаў, што сам паклапоціцца пра яе лепш, чым санітаркі. Работу давялося пакінуць. Жылі на мінімальную пенсію Зоі Андрэеўны (так, яна дзесяць гадоў адпрацавала ў шахтах, але працоўную кніжку калісьці ўкралі, а даведак з архіва, аказваецца, недастаткова). Тыя два гады Аляксандр успамінае, як кашмарны сон. У кватэры пячное ацяпленне — трэба было купляць дровы. Цэлыя ночы ў пакоі хворай гарэла святло — за яго «вылятала» значная сума з іх жабрацкага бюджэту. А лекі для маці без аніякіх ільгот. Не кажучы пра тое, што элементарна трэба было нешта есці... Аляксандр маляваў нешта фарбамі, што засталіся з «лепшых часоў», прадаваў знаёмым. Так і жылі, калі гэта можна назваць жыццём.

Два гады Аляксандр дабіваўся для маці, якая не ўставала з пасцелі, групу інваліднасці. Чатыры разы ён вазіў яе ў раённую паліклініку. І кожны раз старшыня ўрачэбнай камісіі накіроўваў яе на нейкае дадатковае абследаванне (пэўна, пільны доктар бачыў у бабулі, якая «ходзіць» пад сябе і з цяжкасцю вымаўляе асобныя словы, злосную сімулянтку). Групы так бы, напэўна, і не далі, калі б Аляксандр нарэшце не напісаў у Адміністрацыю Прэзідэнта. Адтуль пісьмо трапіла ў Мінаховы здароўя... Камісія прыехала прама на кватэру, тут жа, на месцы, далі Зоі Андрэеўне І групу. Той урач за бяздушнасць атрымаў вымову.

Стала крыху лягчэй. З'явіліся льготы. Аляксандру догляд маці цяпер залічваецца ў стаж. А ён, дзівак, зноў дабіваецца праўды. Справядліва лічачы, што два гады цалкам выпалі з жыцця не па яго віне і што хтосьці павінен даплаціць яму за той час, што маці ляжала без групы. Гэтая праўда, як і ўсе астатнія, даецца яму нялёгка. Прыйшоў толькі адзін больш-менш станоўчы адказ: звяртайцеся ў суд. І ён будзе судзіцца, бо (наіўны дзівак!) свята верыць, што справядлівасць заўсёды перамагае.

Ён нарэшце даведаўся, у якім пекле жыў большую частку жыцця. На запыт прыйшоў адказ: Сяміпалацінск прыраўнаваны ў нас да зоны з правам на адсяленне, пасёлак Чаган — да зоны абавязковай эвакуацыі. Так што яны з Зояй Андрэеўнай могуць карыстацца «чарнобыльскімі» льготамі (за выключэннем ільгот на жыллё). Але для гэтага патрэбна пацвярджэнне з Казахстана, што яны там жылі. Пашпартоў казахскага ўзору, у якіх указана месца нараджэння і прапіска, недастаткова... З Казахстана ўжо прыйшоў адказ (цікавы дакумент, нічым не адрозніваецца ад беларускіх адпісак): «У архіў звесткі аб вашым пражыванні не паступалі. Таму пацвердзіць яго не можам». Можна, вядома, нешта знайсці: паехаць туды самому і зрабіць выпіску з дамавой кнігі. Але ад каго і за якія сродкі? Дый чаму ён павінен ехаць, калі ёсць людзі, якія гэтым займаюцца і атрымліваюць за гэта дзяржаўныя грошы? Ён напісаў летась у пасольства Казахстана і дагэтуль чакае адказу. Не атрымае — будзе пісаць яшчэ. І яшчэ. І яшчэ. Пакуль не пераможа справядлівасць.

Перапіска з рознымі інстанцыямі захоўваецца ў Аляксандра ў двух вялікіх чамаданах. Але ён — не «жалобщик», гэта — не манія. Ён і рад бы паслаць усё да д'ябла, але тады ён не зможа выжыць. У самым простым, фізічным сэнсе гэтага слова.

Ён ужо вельмі падобны на беларускага правінцыяла. У Шуміліне амаль усе — знаёмыя, ёсць сябры, пройдзеш па пасёлку — ці не кожны дасць «дзень добры». У Мінску, як і належыць правінцыялу, ён быў толькі аднойчы, і там яму не вельмі спадабалася. І нават у чыстай рускай мове яго не-не ды праскочыць наша «добра»...

Жывуць яны па-спартанску. Два ложкі, стол, некалькі крэслаў... А ў вялікім пакоі галоўная мэбля — мальберт. Так, ён усё яшчэ малюе. Ціхія шумілінскія вулкі і пейзажы па памяці — «на натуру» выбрацца няма як...

Я ўжо ведала, што ён адкажа, але трэба было ўпэўніцца. Нібы незнарок выказала думку, што, калі здаць маці ў дом інвалідаў, яшчэ не позна спраўдзіць усе мары: сям'я, праца, аспірантура... Паглядзеў на мяне, як на чалавека, які аказаўся горшым, чым здаваўся, здзіўлена неяк вымавіў: «Я ніколі аб гэтым нават не думаў...»

Ён — з казакоў . І, як калісьці дзед, застанецца на сваім фарпосце, вызначаным лёсам. Да канца.

... І ўсё ж ён патлумачыў мне, чаму напісаў у газету. «Напішыце. Так не павінна быць. Не толькі з намі — з іншымі людзьмі, — нельга так...»

Напісаць-то я напісала. Толькі ў тым, што штосьці пасля гэтага зменіцца, — вельмі сумняваюся.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**
*Шуміліна—Мінск.*

# «А я ў дугу ўдарыў»

Ён прыйшоў у рэдакцыю, цяжка апусціўся на крэсла, стомлена запытаў:

— Як ты мяркуеш, ці страчваюць з цягам часу сваю вастрыню нашы пачуцці?

Я моўчкі пацiснуў плячыма. Мне гэта невядома, бо нядаўна размяняў пяты дзесятак, яму ж — далёка за шэсцьдзесят. Калісьці мы разам лячыліся ў адным стацыянары, і ён запомніўся мне сваёй ненатуральнай замкнёнасцю. У размовы ні з кім не ўступаў, зусім не ўсміхаўся. Насупа — і толькі.

І вось раптам — здагадваюся — з'явіўся быццам на споведзь.

— Не страчваюць, — праз хвіліну дадаў ён упэўнена. — Мне здаецца, што ўспрыманне свету з часам абвастраецца. І калі забарахліў арганізм, дык тут не старасць, а менавіта гэтая самая павышаная ўспрымальнасць. Нервы.

— Не трэба прымаць блізка да сэрца, — уставіў я.

— Як жа не прымаць, — з болем прамовіў ён. — Вось слухай.

Пазнаёміліся мы выпадкова. Мы былі адны на аўтобусным прыпынку, і яна мне ўсміхнулася. Нічога смешнага ўва мне, спадзяюся, не было. Я так і сказаў. Слова за слова — пачалі сустракацца.

Лёс у яе — не пазайздросціш. Замужам была ўсяго толькі год, брата забілі, неўзабаве памёр бацька. Уяві, чаго каштавала адзінокай жанчыне вытрымаць усе гэтыя пахаванні.

Ты ведаеш, я па-сапраўднаму ўтрэскаўся, нягледзячы на свае сівыя валасы. І яна мяне, здавалася, пакахала. Нейкі час мы жылі разам. Мы былі вельмі шчаслівыя. Аднойчы ўвечары мы перабіралі грыбы, і яна ціха сказала: «Прабач, сёння пераначуй і больш не прыходзь. Калі ласка, зрабі так, каб мы ніколі не бачыліся».

Уяві мой стан. Па гараскопу я Леў, а Ільвы не церпяць, калі іх адштурхоўваюць.

Я не стаў начаваць, тут жа пайшоў. Ідыёцкі такі характар. Крыўду, бачыце, прадэманстраваў!

Ён памаўчаў, гледзячы ў акно, працягнуў:

— Ты думаеш, справа ў саперніку? У якім-небудзь маладым канкурэнце? Я ж таксама тады памыліўся жорстка. Тут драма куды горшая. Як цяпер разумею, яна спрабавала мяне выратаваць. Дакладней, зберагчы ад верагоднага ўдару лёсу.

Праз некалькі гадоў я даведаўся, што яна стаіць на ўліку ў анкадыспансеры і што ёй зрабілі складаную аперацыю. Яна вельмі высакародны чалавек. А я ўдарыў у дугу. Павёў сябе як істэрычнае немаўля, у якога аднялі цыцку.

Слухай, дапамажы. Яна недзе тут, у Беларусі. Жыве ў дачкі. Ні адраса, ні прозвішча дачкі я не ведаю. Дай праз прэсу аб'яву. Маўляў, Парфір'ева, адгукніся.

Што, уласна, я і зрабіў.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*ПЫТАЛЬНІК*

## ПЛАТА ЗА АЦЯПЛЕННЕ БЫЛА НЕПАМЕРНА ВЫСОКАЙ

*— Якім чынам у сельскай мясцовасці павінны аплочвацца камунальныя паслугі? Так, за ацяпленне я ўносіла 690 тысяч рублёў. Агульная плошча дома — 58 кв.м., жылая — 30. Ці справядлівыя такія лічбы?*

**Адказвае начальнік аддзела камунальнай гаспадаркі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Уладзімір Іосіфавіч ЗЕЛЯНКОЎ.**

— Стаўка на аплату той ці іншай камунальнай паслугі (у вашым выпадку плата за ацяпленне) устанаўліваецца пастановай Міністэрства эканомікі, і потым яе зацвярджаюць аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам. Вышэй за тыя памеры, што ўводзяцца, ніводны аб'ект гаспадарання плату браць не можа. Так што вам не толькі павінны знізіць аплату, але і зрабіць пераразлік за тыя месяцы, калі бралі больш.

*КРЫМІНАЛ*

## ШУКАЮЦЬ РОДНЫЯ, ШУКАЕ МІЛІЦЫЯ...

Не зусім звычайнае абрабаванне адбылося ў ноч на 5 верасня ў пасёлку Калодзішчы Мінскага раёна: невядомыя злачынцы «пакрыўдзілі» не толькі арганізацыю, дзе забралі грошы, але і многіх жыхароў пасёлка. Аднак аб усім па парадку.

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве ўнутраных спраў рэспублікі, па дапамогу міліцыі звярнулася намеснік дырэктара дзяржаўнага прадпрыемства «Мінскаблпошта». Аказалася, што ў ноч на суботу ў памяшканне паштовага аддзялення ў Калодзішчах пранiклі невядомыя, якія спачатку абясточылі аўтаномную сігналізацыю, а пасля ўзламалі дзверы. Той факт, што злачынцы захапілі з сабой 6 мільёнаў рублёў, работнікаў аддзялення не здзівіў: знalі незнаёмыя, чаго ламаліся. Аднак як растлумачыць людзям, што зладзеі акрамя грошай захапілі з сабой бандэролі і пасылкі жыхароў пасёлка, якія адпраўляліся знаёмым і блізкім? Пакуль не ўстаноўлены колькасць і кошт выкрадзенага, як, дарэчы, і людзі, якія ўчынілі злачынства.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## САПРЫКІ МОГУЦЬ СПАЦЬ СПАКОЙНА

**Пасля таго, як яны развіталіся з Людмілай Дубянок, якая наводзіла проста-такі жах на жыхароў гэтай вёскі, што ў Чачэрскім раёне. Многія з іх, кладучыся спаць, не распраналіся і трымалі каля сябе торбы з самым неабходным.**

Гэта жанчына, маці чатырох дзяцей-малалетак, на працягу двух гадоў учыніла ў Сапрыках некалькі падпалаў.

У адных суседзяў згарэў стог сена, у чатырох — хлявы, у двух — дамы. Міліцыя з ног збілася, каб выявіць зламысніка, што, нарэшце, ёй і ўдалося.

А прычына злосці жанчыны на суседзяў была наступная: яе муж, падліўшы, прадаваў дамашнія рэчы. Дык вось Людміла, западозрыўшы, што іх куплялі суседзі, і наладжвала ім вогненныя феерверкі. За што і асуджана на сем гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*ЦЭНЫ*

# МІЖНАРОДНАЯ ПАШТОВАЯ СУВЯЗЬ ПАДАРАЖЭЛА

Як паведамілі «Звяздзе» ў планава-фінансавым упраўленні Дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта», з 4 верасня міжнародныя тарыфы на аказанне паштовых паслуг насельніцтву ўзраслі на 20 працэнтаў. Заўважым, што на працягу гэтага года кошт міжнародных адпраўленняў падымаецца ўсяго другі раз.

Звычайнае пісьмо ў Расію вагою да 20 грамаў будзе каштаваць цяпер 4600 беларускіх рублёў. Гэты ж тарыф распаўсюджваецца і на ўсе краіны СНД, а таксама на Літву і Латвію. А вось сувязь з краінамі далёкага замежжа ацэньваецца крыху даражэй: каб даслаць пісьмо вагаю да 20 г, скажам, у Германію ці Францыю, спажыўцам прыйдзецца «развітацца» з 7 тысячамі «зайчыкаў».

Што ж датычыцца аказання паслуг на паштовыя адпраўленні па тэрыторыі нашай краіны, то тарыфы на іх застаюцца пакуль нязменнымі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

■ У пятніцу вечарам Дзяржаўная Дума зацвердзіла Яўгена Прымакова на пасаду прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі. Яго кандыдатуру падтрымала 315 дэпутатаў пры неабходнай колькасці 226 галасоў. Супраць галасавала фракцыя ліберальных дэмакратаў Жырыноўскага. Новы прэм'ер-міністр сказаў, што пасаду першага віцэ-прэм'ера зойме Юрый Маслюкоў, а Цэнтрабанк узначаліць Герашчанка.

■ Яўген Прымакоў і Мэдлін Олбрайт правялі ўчора тэлефонную размову, у якой запэўнілі адзін аднаго ў далейшым цесным супрацоўніцтве. Прадстаўнік Белага дома сказаў, што ўрад Злучаных Штатаў ведае і паважае Прымакова і лічыць, што ягоныя намаганні на новай пасадзе прывядуць да стабілізацыі сітуацыі ў Расіі.

■ На падводнай лодцы расійскага Паўночнага флоту матрос забіў вахценнага і, завалодаўшы яго зброяй, расстраляў яшчэ семярых сваіх саслужыўцаў. Затым ён забарыкадзіраваўся ў адным з адсекаў. Прадстаўнікі штаба флоту заявілі, што матрос нічога не патрабаваў, яны сцвярджаюць таксама, што на борце падводнай лодкі няма ядзернай зброі. На месца здарэння выехаў галоўнакамандуючы ВМФ Расіі адмірал Кураедаў.

■ Штогадовы прырост насельніцтва нашай планеты, які ў 1960 годзе складаў 2 працэнты, зараз знізіўся да 1,4 працэнта. Нягледзячы на такое даволі прыкметнае зніжэнне тэмпаў росту, за першую палову будучага стагоддзя колькасць зямлян павялічыцца больш чым у паўтара раза і дасягне 9 мільярдаў 440 мільёнаў чалавек.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

# У КОЖНАГА ПРЭЗІДЭНТА СВОЙ ВАТЭРЛОА

**«Звязда» зноў рада прапанаваць сваім чытачам размову з астролагам Веранікай Кудраўцавай. Прыемна, што публікацыі на гэтую тэму не пакідаюць вас раўнадушнымі. Верыць ці не верыць прадказанням — кожны вырашыць самастойна. Ніхто і не прымушае прымаць інфармацыю зорак за чыстую манету. Тым больш, што здараецца, калі і зоркі памыляюцца, і людзі. Але доля праўды ва ўсім гэтым ёсць, і нават заўзяты скептык можа ў тым упэўніцца. Так што бярыце ў рукі аловак і адпраўляйце на адрас рэдакцыі свае пытанні. Спадарыня Кудраўцава згадзілася на завочную «прамую лінію». Дарэчы, а як вам падаецца ідэя тэлефоннай «прамой лініі»? На канверце пазначце — «Астролаг».**

**А пакуль перад вамі вынік чарговай сустрэчы карэспандэнта «Звязды» Жанны КАТЛЯРОВАЙ з вядомым не толькі ў Беларусі, але і ў СНД астролагам Веранікай КУДРАЎЦАВАЙ. І надалей матэрыялы на тэму прадказанняў шукайце ў кожным суботнім нумары «Звязды».**

**— Вераніка, падчас нядаўняй размовы Вы прадказвалі верагоднасць прыходу да ўлады ў Расіі Ілжэ-Дзімітрыя і ўсталявання «сямібаяршчыны», смутнага часу. Вы выказалі меркаванне, што гэтым чалавекам можа быць нерасіянін. Здаецца, суседзі свой выбар зрабілі. І новы кіраўнік урада — ураджэнец Тбілісі.**

— Я не стала б рабіць паспешлівыя высновы. Як я казала раней, сярэдзіна верасня прыгатавала Расіі вялікі сюрпрыз, і, магчыма, паварот падзей будзе звязаны з нейкай асобай, аднак не Чарнамырдзіным. Гэтай фігурай аказаўся Яўген Прымакоў. І ўсё ж у панядзелак 14 верасня ў Расіі будзе вызначаны састаў новага ўрада, уваскрэснуць марксісцкія ідэі.

**— Пра асобу экс-прэм'ера Віктара Чарнамырдзіна Вы казалі, што яму яшчэ давядзецца выканаць сваю місію ў кастрычніку.**

— Заўважце, я гаварыла, што 7 верасня для гэтага чалавека больш прыемны дзень, чым 14-га. Так і адбылося. На другім пасяджэнні Дзярждумы Расіі ў гэты панядзелак (7 верасня) колькасць прыхільнікаў кандыдатуры Чарнамырдзіна павялічылася. У чацвер пра яго практычна забыліся, разглядаючы варыянт Прымакова. Аднак ён не сыдзе з палітычнай арэны і будзе ўдзельнічаць у падзеях у кастрычніку.

Кожны, хто з'яўляецца на палітычнай арэне, выконвае пэўную ролю. У сілах Чарнамырдзіна не дапусціць час самазванцаў. Яго паказчыкі — устойлівасць, стабілізацыя. Але гэтая асоба не можа прэтэндаваць на крэсла прэзідэнта. У структуру Расіі Чарнамырдзін не ўпісваецца ў такой ролі. Ён можа заняць галоўную пасаду ў дзяржаве, але гэта будзе нядоўга.

**— Калі Вы загаварылі пра інстытут прэзідэнцтва... Сённяшні кіраўнік Расіі — тыповы прэзідэнт?**

— Ельцын — класічны прыклад. Па свайму характару, становішчу ва ўладнай пірамідзе, па тым, якую ролю ён выконваў з 1991 года, калі ўтварылася новая Расія. Гэта вобраз прэзідэнта-патрыярха. У час яго кіравання бюракратычная сістэма была і застаецца не настолькі развітой, як гэта магло б быць, і дзяржаўны механізм больш-менш адладжаны. Размова не ідзе пра дзень сённяшні, бо тэрмін яго прэзідэнцтва на зыходзе, і ці здолее Ельцын яго падоўжыць — пытанне. Але варта аддаць належнае: гэта адзіны чалавек з каманды, які браў адказнасць на сябе ў складаных сітуацыях.

**— А якія шанцы нядаўняга прэм'ера Кірыенкі на ўдзел у кіраванні дзяржавай?**

— Кірыенка — фінансавы выканаўца. Ён абраў гэтую ролю, хоць меў выбар. Уласна, ён зрабіў тое, што было яму прадпісана.

**— У Расіі апошнім часам шмат гаварылі пра Лужкова і Лебедзя.**

— У гэтых людзей паказчыкі на прэзідэнцтва лепшыя, чым у Чарнамырдзіна. Але гэта зноў жа выконваючыя абавязкі. Яны хутчэй слугі Айчыны, але не яе бацькі. Напрыклад, у Лебедзя яркія такія паказчыкі: служэнне радзіме, любоў народных мас, добры апазіцыянер, здольнасць стварыць для краіны заслону на нейкі час. Гэтыя людзі зноў жа не тыя, хто здольны стаць галавой дзяржавы на працяглы тэрмін, хаця б такі, які пратрымаўся цяперашні прэзідэнт. Сапраўдны прэзідэнт у Расіі з'явіцца на пачатку XXI стагоддзя.

**— А кіраўнік Злучаных Штатаў Амерыкі займае сваё месца?**

— Так, сваё. У гараскопе гэтай краіны паказчыкі на добра адпрацаваны дзяржаўны механізм, на будаўніцтва па дэмакратычных законах. Але Клінтан сваімі проціпраўнымі дзеяннямі гэты інстытут расхістаў. І не столькі важны факт пралюбадзейства, колькі процізаконны ўчынак — дача лжывых паказанняў. Тым самым Клінтан стварыў прэцэдэнт. Цяпер апошняе слова за грамадзянамі ЗША. Калі людзі адрэагуюць спакойна і кіраўнік застанецца, інстытут прэзідэнцтва вычарпае сябе — уладзе нельга верыць. А гэта вельмі сур'ёзна для Амерыкі.

Клінтану не трэба было балаціравацца на другі тэрмін. Такая роля не ўпісваецца ў натуральны ход гісторыі. Верагодна, ён узяў на сябе больш сваіх сіл. Магчыма, у наступным годзе прэзідэнтам Амерыкі стане іншы чалавек. У любым выпадку, у цяперашняга кіраўніка заакіянскай дзяржавы складанае становішча.

**— І што прадказваюць зоркі яму?**

— У пачатку кастрычніка можа зноў усплыць любоўная гісторыя. А ў сярэдзіне лістапада-снежні адчуецца аслабленне яго ўздзеяння, магчымы зыход. У сярэдзіне ж лістапада не выключаны сур'ёзныя тэрарыстычныя акты: запалохванні ў Амерыцы адбываліся не выпадкова. У гісторыю сваёй краіны цяперашні прэзідэнт можа ўвайсці як чалавек, які нядрэнна праводзіў ваенныя дзеянні, адрозніваўся агрэсіўнай знешняй палітыкай. Але ёсць сур'ёзныя падставы сумнявацца, што Клінтан уступіць у 1999 год на той жа пасадзе. Па шэрагу прадказанняў, у тым ліку Настрадамуса, 44-ты прэзідэнт Амерыкі будзе апошнім. І, мяркуючы па тых падзеях, што намячаюцца на 2003—2005 г г., яны стануць гадамі кіравання 44-га прэзідэнта. Калі не памыляюся, Клінтан 42-гі. Наступны кіраўнік дзяржавы, відавочна, будзе ля руля таксама нядоўга, бо і апошні павінен сысці з палітычнай арэны вельмі хутка. Зрэшты, выйсці пераможцам шанцы ў Клінтана ёсць. Атрымаецца — павага яму.

**— Што ж такое адбудзецца ў далёкай суседкі, калі знікне інстытут прэзідэнцтва?**

— У 2003—2005 г г. Амерыку скалануць моцныя ўзрушэнні на этнічнай і рэлігійнай глебе. Таму рэальныя непаразуменні паміж асобнымі штатамі, якія фактычна прывядуць да распаду адзінай сёння краіны. У дадатак магчымыя ў гэты ж час прыродныя катаклізмы — затапленні. Не выключана, што праз гадоў дзесяць мы будзем пазбаўляцца ад долараў гэтак жа, як сёння — ад расійскіх рублёў. Для гэтага таксама ёсць сур'ёзныя падставы. Ну а ў самай блізкай перспектыве — у наступным годзе Амерыка, магчыма, уступіць у ваенны канфлікт.

# ВЫКАЗВАННІ ІТАЛЬЯНСКАГА МЕДЫКА

Буйнейшая італьянская газета апублікавала гутарку з вядомым псіхіятрам Вітарына Андрэолі, якога яна папрасіла паставіць прэзідэнту Расіі «дыягназ на адлегласці».

«Калі меркаваць па цяперашніх і былых клінічных прыметах, хутчэй за ўсё, мы маем справу з паталогіяй мозгу, звязанай з хранічным злоўжываннем спіртным». Андрэолі адхіляе верагоднасць хваробы Альцгеймера. «Расійскі лідэр пакутуе перш за ўсё ад расстройства ўвагі, — гаворыць Андрэолі. — Зусім відавочна расстройства памяці, г. зн. з'яўляюцца правалы, якія потым кампенсуюцца. Трэцяя прымета — імпульсіўнасць, якая выяўляецца ў нечаканай ці непрапарцыянальнай рэакцыі на ўзбуджальнік».

«Хваробы печані алкагольнага паходжання адбіваюцца на мозгу, — тлумачыць Андрэолі. — Цяперашнія клінічныя прыметы ў Ельцына вельмі тыповыя: першая гіпотэза пры складанні дыягназу — цэрэбрапатыя, звязаная з былым злоўжываннем алкаголем».

«У 2000 годзе ён будзе ў такім стане, што за яго не прагаласуе нават яго ўласная дачка», — заключае Андрэолі. Але ўжо сёння яго праблемы дастаткова сур'ёзныя, каб ён не быў у стане прымаць адэкватныя рашэнні: «Кіраўнік у яго стане можа прымаць рашэнні ў такім эмацыянальным настроі, што ацэнкі будуць няправільнымі».

**«Кар'ера дела сера» (Італія).**

# «ПРАВІЛЬНЫ КОНЬ»

«Народная мудрасць не раіць мяняць коней на пераправе. Форс-мажорныя абставіны могуць стаць выключэннем. Для Захаду, які ўжо 6 гадоў ставіць на Барыса Ельцына (па праўдзе кажучы, выбару не было), настаў момант памяняць каня.

Усё пытанне заключаецца для заходніх сталіц у тым, хто зойме месца, якое пакіне вакантным гаспадар Расіі, і якія будуць у яго намеры. Як выявіць і падтрымаць патрэбнага каня сярод тых, хто фыркае пад сценамі Крамля!

Не маючы магчымасці паўплываць на ход падзей, Вашынгтон і іншыя заходнія сталіцы вымушаны спадзявацца на якога-небудзь былога апаратчыка брэжнеўскіх часоў, каб адстойваць інтарэсы рыначнай эканомікі і дэмакратыі! Ну і часы!»

**«Трыбун» (Францыя)**

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

# ЦІ ТАКАЯ ЎЖО І «БУЛЬБЯНАЯ» РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ?

**Калі Казахстан называюць краінай «пшанічнай», Узбекістан — «баваўнянай», Малдову — «вінаграднай», то Беларусь, зразумела, «бульбянай». І гэта не дзіўна: беларус без бульбы, якую ён па праву называе яшчэ «другім хлебам», не ўяўляе свайго жыцця. Сёння, мабыць, не знойдзецца ніводнай гаспадаркі, якая б не займалася яе вырошчваннем. Але пакуль мы пераконвалі сябе ў тым, што больш «бульбянай» краіны, чым наша, няма ў свеце, сітуацыя прыкметна змянілася. Прычым не на нашу карысць.**

Дзяржавы свету і, ў прыватнасці, заходнееўрапейскія краіны, даўно пераўзышлі Беларусь па ўраджайнасці бульбы, што дазволіла некаторым вытворцам абагнаць нас і па валавому збору «другога хлеба». І гэта пры тым, што беларускія землі і клімат больш прыдатныя для вырошчвання бульбы, чым, скажам, галандскія ці шведскія. Але сакрэт іх поспеху нам вядомы: ён належыць перш за ўсё навукоўцам, а ўжо потым аграрыям. Менавіта за кошт выявдзення новых сартоў, за кошт геннай інжынерыі раслін, за кошт новых метадаў апрацоўкі глебы і раслін сельская гаспадарка развітых краін дасягае ўраджайнасці бульбы амаль 500 цэнтнераў з гектара.

Прынамсі, той жа галандскі вопыт асобныя айчынныя «эксперыментатары» спрабавалі перанесці і на нашу глебу. І атрымлівалася. Але гэта толькі нясмелыя крокі. Буйныя ж гаспадаркі па аб'ектыўных прычынах працуюць па-ранейшаму. Больш таго, з цягам часу «замарозіліся» і даследаванні нашых вучоных, стала менш спецыялістаў у гэтай галіне і менш вопытных гаспадарак. Вядома, калгасам, якія балансуюць на мяжы банкруцтва, не да новых распрацовак. У выніку нас адсоўваюць усё далей і далей...

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Крыніца: FAO.

**Валавы збор бульбы 10 буйнейшых вытворцаў у 1995 г., млн. тон.**




**Ураджайнасць бульбы ў некаторых краінах свету ў 1995 г., ц/га.**




МИНСК

**ИНФОРМАЦИОННОЕ СООБЩЕНИЕ об аукционе по продаже объектов коммунальной собственности г.Минска** — **12 октября**

| NN | | 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Наименование объекта | Здание * | Здание * | Здание * | Незавершенное стр-во 6-ти квартирного жилого дома N17 *** |
| 2 | Местонахождение объекта в г. Минске | ул. Замковая, 27 | ул. Замковая, 29 | ул. Замковая, 31 | п. Петровичи Смолевичского р-на |
| 3 | Тип помещения | отдельностоящее | отдельностоящее | отдельностоящее | отдельностоящее |
| 4 | Общая площадь (кв. м.) | 283,00 | 155,00 | 197,00 | - |
| 5 | Начальная цена продажи / оценочная стоимость (млн.руб) | 300/289,80 | 100/94,10 | 330/328,10 | 2200/2170,85 |
| 6 | Сумма залога (млн.руб) | 30,00 | 10,00 | 33,00 | 220,00 |
| 7 | Форма проводимого аукциона | с условиями | с условиями | с условиями | без условий |
| 8 | Условия продажи объекта | сохранение исторического характера объекта ** | сохранение исторического характера объекта ** | сохранение исторического характера объекта ** | - |
| 9 | Срок аренды помещения после продажи | продажа в собственность | продажа в собственность | продажа в собственность | продажа в собственность |
| 11 | Площадь земельного участка(га) / Характ-ка строения | -/2-х этажное кирпичное | -/2-х этажное кирпичное | -/2-х этажное кирпичное | 0,0238/2-х этажное кирпичное |

* Площадь земельного участка устанавливается новым собственником по согласованию с Комитетом архитектуры, градостроительства и землеустройства.

** См. решение Минского городского исполнительного комитета от 10. 09. 1998г.

*** Затраты, понесенные Заказчиком по строительству после даты оценки, возмещаются покупателем сверх цены продажи .

ПРИМЕЧАНИЕ

1) Аукцион состоится в 12.00 12 октября 1998 г. в городе Минске по адресу: ул. Козлова, 3, Республиканская художественная галерея (Дворец искусств) , конференц зал (2-й этаж).

2) Для участия в аукционе необходимо в срок до 9 октября включительно представить следующие документы в адрес Минскгоримущества:
- заявление на участие в аукционе;
- копии учредительных документов, заверенные нотариально либо органом, осуществляющим регистрацию (для юридических лиц);
- заверенные банком копии платежных поручений, подтверждающих внесение:
а) залога в сумме 10% начальной цены;
б) специального сбора за подачу заявления в размере 4-х месячных минимальных заработных плат;
в) платы за регистрацию в размере 1/4 месячной минимальной заработной платы. Денежные средства перечисляются Минскому городскому комитету по управлению госимуществом и приватизации на расчетный счет N3622000000341в ОПЕРУ АСБ "Беларусбанк", код 795.

При подаче заявления лицо, желающее принять участие в аукционе, подписывает с Минскгоримуществом Соглашение о правах и обязанностях сторон в процессе подготовки и проведения аукциона.

При подаче заявления представитель юридического лица должен иметь паспорт, доверенность на участие в аукционе и на подписание документов.

Физическое лицо (или его представитель, участвующий в аукционе по доверенности) - паспорт.

Заявления на участие в аукционе принимаются по адресу: г. Минск, пр. Ф. Скорины, 8, отдел конкурсов, аукционов, ком. 225 Мингорисполкома с 9.00 до 18.00 по рабочим дням по 9 октября 1998 г. включительно. Контактный телефон: (017) 220-66-24.

3) Победитель аукциона до подписания договора купли-продажи представляет справку налоговых органов о представлении декларации об объемах и источниках инвестиций:
- юридические лица - при сумме сделки от 50000 месячных минимальных заработных плат,
- физические лица - при сумме сделки свыше 500 месячных минимальных заработных плат.

4) Оплата за объект осуществляется по безналичному расчету согласно Договору купли-продажи.

5) В случае победы на аукционе заявитель обязан возместить затраты на подготовку и проведение аукциона в размере 4% начальной цены объекта и 5% суммы превышения цены продажи над начальной.

6) Сумма возмещения затрат на подготовку и проведение аукциона перечисляется органу приватизации на счет, указанный в протоколе о результатах аукциона.

7) Всем желающим предоставляется возможность предварительно ознакомиться с объектами.



## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 1. Персанаж дзіцячай казкі пра Дзюймовачку. 4. Папулярная інфармацыйна-музычная перадача Расійскага радыё. 6. Рэчка непадалёк ад возера Нарач. 9. Дрэва, з галінак і лісця якога ў Грэцыі рабілі і робяць вянкі для пераможцаў. 10. Апора ў лініі радыё- і электраперадач. 11. Уладальнік зямельнага ўчастка на памежжы Беларусі і Польшчы ў 20—30-я гады. 12. Правы прыток Дзясны. 14. Рака ў Францыі. 16. Невялікая вокладка для дзелавых і школьных папер. 19. Вядомая ў недалёкім мінулым савецкая кітабойная флатылія. 21. Фехтавальная зброя. 23. «Летам зямлю апранае, а зімой распранае» (загадка). 26. Адзенне святара. 28. Вялікая сетка для лоўлі марскіх рыб. 30. Кавярня, невялікае кафэ ў Італіі. 31. Каўнер-упрыгожанне для жаночай вопраткі. 32. «Свойская» рыба, якую ў натуральным выглядзе называюць «сазан». 33. Вельмі адказная сезонная сельскагаспадарчая работа. 35. Духмяны напой з зерня трапічнага дрэва. 36. Паўднёвае пладовае дрэва, «сваяк» яблыні.

**Па вертыкалях:** 1. «Мой родны кут, як ты мне мілы» (аўтар). 2. Старажытны гарадок на Палессі, у мінулым цэнтр славутага княства. 3. Назва прытока ракі Чулым у Сібіры, якая складаецца з дзвюх апошніх літар у алфавіце. 4. Абавязковая прыналежнасць касцюміраванага балю. 5. Пісьменнік, аўтар серыі прыгодніцкіх кніг з жыцця Паўночнай Амерыкі «Следапыт», «Піянеры», «Апошні з магікан» і г. д. 7. Вялікі горад у Экватарыяльнай Афрыцы. 8. Тонкая баваўняная тканіна, падобная на палатно. 13. Вузлавая чыгуначная станцыя на Беларускай чыгунцы. 15. Лірычны верш М. Лермантава, пакладзены на музыку. 16. Нічыйнае становішча ў шахматнай гульні. 17. Невялікая рака ў басейне Волгі. 18. Горад у Чэлябінскай вобласці. 20. Мяшочак ля борта більярднага стала для шароў. 22. Прамысловае прадпрыемства для вырабу шкла і шкляных рэчаў (стар.). 24. Вялікая старажытная дарожная карэта. 25. Адзін з «ворагаў» Дон Кіхота-Ламанчскага. 26. Ядомы пласціністы грыб. 27. Дрот для выроўнівання ходу калёс. 28. Парода невялікіх па памеру сабак. 29. Руская народная гульня з невялікім мячом. 34. Правільная назва зямельнай плошчы — соткі.

**Склала Зінаіда БОГДАН.**
*г. Заслаўль.*

## КРЫПТАГРАМА



Прачытайце мудрую народную прымаўку, зашыфраваную ў крыптаграме. Але спачатку разгадайце чатыры ключавыя словы, а потым адлаведна аднолькавыя лікі заменіце ў клетках крыптаграмы на аднолькавыя літары.

а) 1-2-3-4 — у старой Расіі: сход гараджан для вырашэння важных пытанняў; б) 5-4-6-7-4 — невялікі паляўнічы сабака; в) 8-9-10-11 — старая мера вагі, роўная 44,4 мг; г) 12-13-14-4-15-16 — хваля велізарнай сілы, што ўтвараецца пры падводных і прыбярэжных землетрасеннях.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## ЯКАЯ ЛІЧБА?

Перад вамі тры арыфметычныя прыклады:

**САЖЕ + ФАД = 2227**
**ВЕЖ - НІД = 563**
**ВІДЕ - ФАДЕ = ?200**

Замест аднолькавых літар трэба паставіць адпаведныя аднолькавыя лічбы, каб у выніку атрымліваліся правільныя рашэнні. Пытанне: якая лічба павінна стаяць замест пытальніка ў трэцім прыкладзе?

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (5 верасня). Па гарызанталях:** 1. Трясогузка. 7. Груца. 12. Глагол. 13. Мазила. 14. Амбарас. 15. Уцёкі. 16. Нуда. 17. Штукатур. 18. Тьма. 19. Тоска. 20. Агіда. 22. Ікол. 25. Жнівень. 27. Рухавік. 30. Нарада. 31. Плот. 34. Квадра. 36. Шорник. 38. Творца. 39. Алешына. 41. Бэз. 42. Аканом. 43. Ярмарка. 44. Ражка. 45. Оценка. 47. Кат. 50. Луна. 53. Абабак. 56. Рыса. 57. Цапка. 59. Нерат. 60. Ропот. 63. Приказ. 65. Асвета. 67. Націск. 68. Доказ. 71. Цвет. 73. Абібок. 75. Сіло. 76. Хорёк. 77. Арбуз. 78. Аленька. 82. Кветка. 86. Ануча. 87. Прас. 89. Знак. 90. Клюка. 92. Сорочка. 93. Твань. 94. Брак. 95. Свора. 97. Вяргіня. 100. Грамада. 103. Ручнік. 104. Роща. 105. Багор. 107. Рига. 109. Платье. 110. Андарак. 112. Сякера. 114. Квактуха. 118. Маланка. 121. Басэтля. 123. Явление. 124. Шрубцынга. 126. Распалка. 127. Прысуд. 128. Кавадла. 129. Трайня. 130. Вадохрышча. 131. Нягоднік. **Па вертыкалях:** 1. Тронкі. 2. Сума. 3. Гмах. 4. Зваротак. 5. Капкан. 6. Постав. 7. Грёза. 8. Упікі. 9. Аматар. 10. Дзьмухавец. 11. Каралі. 12. Гута. 14. Адхон. 15. Урон. 17. Шкода. 21. Галка. 23. Лапша. 24. Лазня. 25. Журнал. 26. Егоза. 28. Ворон. 29. Краса. 31. Пика. 32. Тропа. 33. Лацкан. 35. Влага. 36. Шэраг. 37. Накрыўка. 40. Арфа. 45. Овца. 46. Крама. 48. Терпение. 49. Хата. 51. Угон. 52. Капліца. 54. Брелок. 55. Краюха. 58. Аздоба. 61. Таўкач. 62. Лісце. 64. Иго. 66. Слімак. 69. Казань. 70. Залік. 71. Цмок. 72. Грунтвага. 74. Кабат. 79. Пасаг. 80. Нырка. 81. Кочка. 83. Вір. 84. Тыква. 85. Скон. 87. Пагарда. 88. Свіран. 89. Знічка. 91. Луг. 94. Берасцянка. 96. Скокі. 98. Рада. 99. Ябеда. 101. Роза. 102. Март. 106. Рок. 108. Гара. 109. Прынада. 111. Рэльс. 113. Каліва. 115. Вар. 116. Кабета. 117. Урывак. 118. Мера. 119. Луска. 120. Келіх. 121. Бацян. 122. Сапог. 124. Шаты. 125. Едок.

Мяркуючы па першых водгуках, а гэта пакуль што толькі тэлефонныя званкі, гэтая крыжаванка, у якой зведзены разам пераклады на беларускую і на рускую мовы, прыйшлася даспадобы нашым чытачам.

**Крыптаграма (5 верасня).** Ключавыя словы ў ёй: юнацтва, жыр, дзея, паліва, мех. А зашыфраваная прымаўка чытаецца такая: «Там падхалімы нараджаюцца, дзе яны прыжываюцца».

**Галаваломка «Рыбкі» (5 верасня).** Усе чорныя рыбкі плывуць направа, а вось белыя — пачаргова то направа, то налева. Калі ўлічваць гэтую акалічнасць, то замест пытальніка трэба браць пару рыбак № 1.

## ІЛЬВАМ — І МУЖЧЫНАМ, І ЖАНЧЫНАМ — ПРЫЙДЗЕЦЦА НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ЦЯЖКА

**Усходні гараскоп на наступны тыдзень**

У кагосьці з КАЗЯРОГАЎ наперадзе нейкая сакрэтная і вельмі далікатная місія. Гэта ў першую чаргу закране ўрачоў, адвакатаў і супрацоўнікаў спецслужбаў, магчыма — ваеннаслужачых спецназа і АМОНа. Місія абяцае стаць вельмі нялёгкай. Асобы з філасофскім складам розуму зоймуцца метафізікай і сферай непазнанага. Вамі авалодае добрае імкненне да вяршынь духоўнага пазнання.

ВАДАЛЕЙ прыме на сябе нейкія важныя абавязацельствы. У многіх наперадзе замежная паездка. Тыдзень абяцае прынесці немалыя даходы. Усе перашкоды ліквідуюцца самі па сабе. Уважліва прыгледзьцеся да кан'юнктуры на рынку фінансаў — вы маеце рэальны шанц сарваць куш. Рамантычныя віхуры падхопяць тых, чые сэрцы пакуль свабодныя.

Многія РЫБЫ маюць права чакаць назначэння на высокую адказную пасаду. Вы напэўна атрымаеце нейкае прыемнае паведамленне. Спартсмен даб'ецца выніку сусветнага класа. Энергічная дама прадэманструе сапраўды цуды прадпрымальніцтва. Не забывайце аб здароўі і добрай фізічнай форме. Асоб абодвух полаў незалежна ад узросту чакае сексуальны выбух.

АВЕН паспяхова расчысціць завалы на рабоце і ў справах. На дадзеным этапе астролаг не рэкамендуе ўступаць у якія-небудзь дагаворныя абавязацельствы. Нарошчвайце патэнцыял магчымасцяў на бліжэйшую будучыню. Беспрацоўны зможа заключыць выгаднае працоўнае пагадненне. У вас жаданне змяніць сферу дзейнасці — успомніце словы евангеліста: «Оставайся всяк на своем месте».

Пазіцыі ЦЯЛЬЦА трывалыя практычна па ўсіх напрамках, на дадзеным этапе вам проціпаказаны любыя рэзкія змены. Дарэчы, на рабоце цалкам магчымы нейкі склочны разбор. Трымайце розум ясным і не павышайце голасу, хутка ваш апанент усвядоміць свае памылкі. У вашых сардэчных справах намячаецца крайне цікавы паварот.

Высокія прафесіяналы — БЛІЗНЯТЫ даб'юцца значных поспехаў у сваёй сферы дзейнасці. Толькі нямногіх з вас закрануць цяперашнія фінансава-эканамічныя нягоды ў Расіі. Вельмі верагодныя нечаканыя расходы, магчыма, вы забыліся своечасова аплаціць рахункі. Дама ў чарговы раз пацвердзіць сваё ўменне падабацца мужчынам.

Поспех у першую чаргу ў тых РАКАЎ, каго лёс да гэтага часу абыходзіў сваімі міласцямі. Гэта закране перш за ўсё тых, каму па роду работы часта даводзіцца бываць на свежым паветры. Магчыма перамена службы, якая ўмацуе ваша стабільнае становішча. Маладыя муж і жонка часта сварацца з-за права на вяршэнства ў сям'і. Вучыцеся навуцы кампрамісаў.

ІЛЬВАМ мужчынскага полу наўрад ці прыйдзецца скардзіцца на капрызы фартуны. Рытм жыцця размераны, падзеі вакол вас адбываюцца пераважна спрыяльныя. Цудоўнаму ж полу нярэдка прыйдзецца цяжка і на рабоце, і дома. Хутчэй за ўсё вы самі стварылі сітуацыю, у якой адчуваеце сябе бездапаможнай. Магчыма, вам патрэбны адданы, ласкавы палюбоўнік.

Народжаныя пад знакам ДЗЕВЫ ў прынцыпе маюць шанц вырашыць усе свае праблемы, аднак зрабіць гэта будзе нялёгка і ўдасца далёка не ўсім. Дзейнічайце мэтанакіравана і не распыляйце сілы. У вашым жыцці наступаюць нейкія важныя спрыяльныя змены — слухайце ўважліва голас інтуіцыі. Рыхтуйцеся да таго, што ўсплыве ваш нейкі даўні грэх.

ШАЛІ праяўляюць нечаканую сварлівасць у адносінах з калегамі і партнёрамі. Здаецца, вы адчуваеце залішнюю чуллівасць па нейкаму недарэчнаму пытанню, якое выклікае ў вас пастаяннае раздражненне. Дома наперадзе дадатковыя расходы. Верагодна, адновіцца з новай страсцю нейкая даўняя любоўная сувязь.

СКАРПІЁН рызыкуе трапіць у асаду плётак і шкодных чутак. У гэтай непрыемнай сітуацыі вы падвергнуты хуткім памылковым рашэнням і дзеянням. Калі дазваляюць абставіны, вазьміце некалькі адгулаў і ідзіце ў цудоўны асенні лес або парк, падумайце аб вечным. Ваша галоўная задача — аднавіць сваю душэўную раўнавагу.

СТРАЛЕЦ будзе заняты ажыццяўленнем нейкага важнага мерапрыемства. Вельмі магчымы прыкрыя перашкоды аб'ектыўнага характару, якія прымусяць некалькі разоў мяняць бягучыя планы. Існуе рэальная небяспека страціць канфідэнцыяльны дакумент або каштоўную рэч. Могуць узнікнуць праблемы з дзецьмі. Тайная любоўная сувязь становіцца яўнай.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ, кар. ІТАР — ТАСС.**
*г. Дэлі.*

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ПАСЕЮ ГУРОЧКІ

*БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ*




**Вядомы беларускі фалькларыст Міхаіл Грынблат запісаў у 1937 годзе ў вёсцы Юравічы Калінкавіцкага раёна песню «Пасею гурочкі» (Генадзь Цітовіч змясціў яе ў «Анталогіі беларускай народнай песні»).**

**Варыянт гэтай песні запісаны і ва Украіне.**

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*Пасею гурочкі*
*Нізка над вадою,*
*Сама буду паліваці*
*Дробнаю ж слязою*.*

*Выраслі гурочкі.*
*Шырокі радочкі.*
*Не бачыла міленькага*
*Чатыры ж гадочкі.*

*А цяпер убачыла,*
*Як валы займала.*
*Не пасмела размаўляці,*
*Бо маці ж стаяла.*

*Я яму пісала*
*Беленькі лісточак:*
*Прыедзь, прыедзь, мой міленькі,*
*Хоць на адзін часочак.*

*Цвітуць агурочкі,*
*Палавіна ўецца...*
*Сказаў мілы — любіць буду,*
*А цяпер смяецца.*

*Цвітуць агурочкі,*
*Палавіна вяне..*
*Сказаў мілы — любіць буду,*
*А цяпер — не гляне!*

*Пасею гурочкі*
*Нізка над вадою,*
*Сама буду паліваці*
*Дробнаю ж слязою.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.



## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 20-годдзем* **Наталлю Чаславаўну АЛЯШКЕВІЧ**. *Жадаем моцнага здароўя, кахання, поспехаў у працы.*

**Бабуля, дзядуля з в. Рубяжэвічы.**

*Віншуем любых бабулю і дзядулю* **Веру Лявонцьеўну** *і* **Міхаіла Арцёмавіча ТУПІКАЎ** *з в. Швабы Лагойскага раёна з залатым вяселлем. Жадаем здароўя, дабрабыту, цяпла ад родных, радасці — ад унукаў.*

**Унукі Наталля, Віктар.**

*Віншуем сваю дарагую, любую, адзіную жонку і матулю* **Святлану Уладзіміраўну МАКУЦЕНЮ** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у справах.*

**Муж, дачушкі,** *в. Шасткі Капыльскага раёна.*

*Дарагая дачушка* **Таццяна СТРУК,** *віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту і ўсяго найлепшага.*

**Бацькі,** *Астравецкі раён.*

*З 30-годдзем віншуем* **Ігара Мікалаевіча АЎДЗЕЯ** *з в. Лацавічы. Жадаем дабра, душэўнага спакою, шчасця, кахання ў сям'і.*

**Кум і кума, сям'я Жаўткоўскіх.**



Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Аляксандра Якаўлевіча ПРАСВІРАКОВА** з Мінска.

*Пусть эта замечательная дата*
*в душе твоей оставит след.*
*Всего тебе, чем жизнь богата:*
*здоровья, счастья, долгих лет.*

**Сябры.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79.* ***E-mail:*** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 92.132.
Індэкс 63850.
Зак. № 5431.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12